# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1969
Ліпень-
Жнівень

Год XVII
№ 4 (115)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

Year XVII July—August № 4 (115)
1969

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVII ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ № 4 (115)

# Візыта Паўла VI-га ў Жэнэве

10-га чэрв. 1969 Папа прыбыў самалётам у Жэнэву на юбілей 50 год Міжнароднай Арганізацыі Працы, якая яго спэцыяльна запрасіла і таксама, каб адведаць там Сусьветную Раду Цэркваў (уваходзяць у Раду 223 цэрквы пратэстанскія, англіканская і праваслаўная).

На лётнішчы ў Жэнэве прывіталі Папу: Прэзыдэнт Швайцарыі др. Фон Моос, Генэр. Дыр. Арганізацыі Працы др. Д. Морсэ і Генэр. Сакратар Рады Цэркваў др. Карсон Блаке.

Найперш Павал VI-ы быў прыняты ў Бюро Арган. Працы і там меў прамову да працаўнікоў Бюро: дзякаваў ім за запрашэньне і выказаў прызнаньне іхняе працы — палепшыць долю рабочага сьвету і заахвочваў да далейшага намаганьня. Папа моцна падкрэсьліў цяжкасьці і цярпеньні людзей працы з прычыны непаладак у адносінах між працадаўцамі — прыватнымі ці дзяржаўнымі — і работнікамі.

«Як-жа многа — кажа Папа — несправядлівасьці, цярпеньняў і плачу яшчэ ўзносіцца да неба ад сьвету працы! Дык трывайце непахісна пры сваей задачы, якой ёсьць абарона справядлівасьці і супакою на сьвеце, які ёсьць цяпер найважнейшай справай для сьвету і будучых на ім людзей. А якраз будучыня можа будавацца толькі пры супакою між усімі рабочымі сем'ямі, між клясамі і народамі . . .»

Далей Папа моцна падкрэсьліў гуманітарны характар працы: «Адзінай мэтай працы — кажа — ёсьць ня грошы, ня ўлада, але дабро чалавека — як работніка, так і гаспадара».

Уканцы Папа горача заклікаў моладзь да будаваньня заўтрашняга сьвету, але да гэтага моладзь мусіць належна прыгатавацца. — Словы Паўла VI-га былі сардэчна прынятыя воплескамі працуючых, якія там сабраліся з 127 краінаў сьвету.

*

Пасьля Папа наведаў Сусьветную Раду ЦЭРКВАЎ. Спачатку адбылася супольная малітва ў экумэнічнай капліцы, дзе ўсе разам адмовілі «Ойча Наш . . .» — каб Бог даў усім злучыцца ў адзінай Хрыстовай Царкве! Пасьля ўсе сабраліся ў салі: там першы прамовіў Генэральны Сакратар Рады Цэркваў. Ён падкрэсьліў, што візыта Папы ёсьць доказам для цэлага сьвету, як значна ўзрасло намаганьне Каталіцкае Царквы і Сусьветнае Рады Цэркваў у справе супакою на сьвеце, як і ў справе адзінства Хрыстовае Царквы.

У адказе Папа пацьвердзіў, што сапраўды запанавала сяброўства ў хрысьціянстве і пажадаў, каб яно паглыбілася яшчэ больш.

«Ці-ж самая Сусьветная Рада Цэркваў — кажа Папа — ня ёсьць праявай «расцярушаных Божых дзяцей» (паводля Эвангельля сьв. Яна — 11, 52), якія цяпер шукаюць павароту да адзінства?»

Сваю візыту Папа назваў прарочым мамэнтам, заранiцай будучага дня, пажаданага ў працягу вякоў.

І ў прамове Папа сказаў аб сабе, кім ёсьць з Божае волі для Хрыстовай Царквы: «Вось Мы ёсьць — кажа — сярод Вас, а нашае імя ёсьць П ё т р. Сьв. Пісьмо выясняе нам, якое значэньне хацеў Хрыстос надаць гэтаму Імяні, якія ўзлажыў абавязкі — адказнасьць апостала і яго насьледнікаў». Павал VI-ы ёсьць пракананы, што бяз ніякае заслугі Бог даў яму ўладу і абавязак служыць супольнасьці (Хрыстовай Царкве). І гэты харызмат Бог даў яму не для таго, каб стаяць асобна аддзеленым ад супольнасьці хрысьціян, каб адны другіх не разумелі і каб ня былі здольныя да супрацы і сяброўства, але на тое, каб споўніць Хрыстовы загад любові ў праўдзе і ў пакоры.

Адносна прыналежнасьці Каталіцкае Царквы да Сусьветнае Рады Папа сказаў, што гэтая справа яшчэ не дасьпела: з гэтым злучана нямала багаслоўскіх праблемаў, якіх вырашэньне вымагае даўжэйшага часу. Аднак гэта не перашкаджае Каталіцкай Царкве мець глыбокую пашану да Сусьветнае Рады Цэркваў, каб разам імкнуцца да лучнасьці, якой жадае Ісус Хрыстос. Пры гэтым Папа пералічыў некаторыя справы, у якіх маглі-б практычна весьці супрацу, як багаслоўскія дыялёгі, лепшае зразуменьне літургіі, паглыбленьне духовай фармацыі сьвецкіх вернікаў, супраца ў помачы спозьненым народам у разьвіцьці іх эканомікі, у справе сусьветнага міру, у справе збліжэньня да няверучых,

а таксама да супрацы з няхрысьціянамі, у справах згоды і ладу між старшымі і малодшымі пакаленьнямі і інш.

*

Вечарам гэтага-ж дня, 10/VI, Папа служыў сьв. Літургію на пляцы ў вялікім парку гораду: прысутнічала каля 60 тысяч народу.

Да праграмы дня дайшла размова Папы з Абісінскім імпэратарам Гайле Сэлясьсе, які якраз быў ў Жэнэве. Галоўнай тэмай размовы была справа вайны Нігерыі з Біяфрай: імпэратар укладае шмат намаганьняў, каб давесьці да згоды.

Позным вечарам Папа вярнуўся ў Рым.

Цікава, што візыта Рымскага Папы здарылася ў Жэнэве — у горадзе, які дасюль лічыўся цэнтрам пратэстанства — іх «Рымам». І ў Жэнэве калісьці праводзіў сваю дзейнасьць супраць Каталіцкае Царквы галоўны рэфарматар Кальвін; аднак цяпер настроі грамадзтва перамяніліся, а варожасьць да Рыму астыла.

---

*Я. Савіцкі*

# 3-яя вайна — і — канец сьвету

Ня зусім выпадкова трапіў а. Раман да спадарыні Сабіны Загорскай, а гэта была асоба вельмі гаварлівая і сымпатычная. Працуючы пры паважным выдавецтве, яна мае ў руках самыя новыя кніжкі ў розных мовах і чытае навінкі, можна сказаць, лепшыя з найлепшых; а прытым можа карыстаць з кніжак ангельскіх, нямецкіх, францускіх, беларускіх, польскіх, расейскіх, украінскіх...

Сабіна: — Ах, а. Раман, як добра, што Вы прышлі! Маю Вам штосьці сказаць, але перш мусіце пабачыць мой сад і кветкі, бо я ніколі ня ўмею сядзець, злажыўшы ручкі. Як прыйду са службы, дык зара мушу пакланіцца сваім кветачкам, а пасьля толькі бяруся шыкаваць абед.

— Каб ня справы гэтага дому, якія мяне толькі мучаць, — (гавару аб афіцыяльных абавязках, як падаткі, асэкурацыя, плата за тэлефон, за тэлевізію, радыё, за ваду, электрычнасьць, газ, за малако, за бялізну і шмат іншых), — дык была-б я самая шчасьлівая на сьвеце.

— Вы ведаце, што значыць жыць чалавеку аднаму, асабліва ўдавою пасьля такога стараннага мужа. Тады я ня ведала, што значаць плата і раты, і даўгі, і нядоімкі і нястачы ? . . . А цяпер аказваецца, што я зусім ня ўмею ар'entавацца ў такіх труднасьцях.

— Аднак пойдзем пабачыць мае кветкі! А галоўнае багацьце саду — гэта ружы ўсялякіх колераў. Я-ж ведаю — Вы найбольш любіце «чайныя ружы», але яны цвітуць пазьней ад усіх. А вось гляньце на півоніі, на браткі і на настурцыі . . .

*

Аднак з такім ігнарантам у кветках, як а. Раман, сп-ня Сабіна мела чысты клопат: ён зара забываўся, як называюцца самыя агульнаведамыя кветачкі. А паказваў на кветкі палачкай, што надта не падабалася сп-ні Сабіне, дый ня ўмеў захапляцца, распытвацца і хваліць. Але ўсё-ж і за тое, што хоць пабачыў, а. Раман заслужыў на ангельскі «кубак гарбаты». І тут завязалася размова такая, якой якраз і жадаў а. Раман.

Сабіна: — Я ўвесь час чытала ў часапісе вашыя разважаньні пра канец сьвету.

а. Раман: — Ну-ну! І што Вы наконт гэтага скажаце?

Сабіна: — Я зразумела, што Вы паставілі сабе заданьне напалохаць чытачоў «Божым Шляхам» — аж самі чытачы пачалі пратэставаць і я сама проста не магла заснуць! — Толькі мілыя кветачкі мяне ратуюць.

а. Раман: — Што-ж? Рэдакцыя «Божым Шляхам» лёяльна зьмяшчае галасы чытачоў, прыхільныя і няпрыязныя: мы нават удзячны за крытыку, бо гэта прычыніцца да высьвятленьня пагрозы. Пры гэтым мусімо ясна высказаць, што наш д ы я л ё г ня ёсьць навуковым трактатам, ані тымбольш «прароцтвам» аб канцы сьвету, як практыкуецца ў адвэнтыстаў. Мы ведаем і прызнаём, што «канец сьвету» Бог трымае ў сваіх руках і што гэта ёсьць таямніца ведамая толькі Самому Богу Айцу. Як сказаў Хрыстос: «Аб дні тым і гадзіне ніхто ня ведае, нават і ангелы нябесньня, а толькі Айцец Мой адзін» (Мацьв. 24, 36).

Сабіна: — Дык нашто-ж тады аб гэтым шмат гаварыць? Можа лепш і зусім замаўчаць? . . . .

а. Раман: — Гаварыць і пісаць абавязкава трэба, бо неабходна сыгналізаваць небасьпеку і высказаць рызыку, на якую нас выстаўляюць найвышэйшыя вучоныя матэматыкі і тэхнікі. Як існуе сьвет, яшчэ ніколі чалавецтва ня было пастаўлена вока ў вока з небасьпекай поўнага зьнішчэньня, як гэта сталася цяпер. А што некаторыя «разумнікі» на нас злуюцца ці сьмяюцца, або што баязьліўцы ня могуць спаць, дык гэта яшчэ ня прычына, каб маўчаць, хіба толькі набраўшы вады ў губы . . .

— І Хрыстос гаварыў апосталам: «Дзеля таго і вы будзьце гатовы, бо Сын Чалавечы прыйдзе ў гадзіну, у якую ня думаеце» (М. 24, 44).

Сабіна: — Я ўсё-ж думаю, што тут кропку паставіць нельга і што Вы абавязаны падказаць нейкую добрую раду — ратунак у процьме, адным словам, трэба ўнесьці сьвятло. Вы ўмееце ўцягнуць і зацікавіць чытача, я гэта бачу. Вось я чытаю францускі раман . . .

а. Раман: — (перабіваючы) — Вы добра сказалі: пастрашыўшы, трэба далей разьвіваць справу і я за гэта бяруся.

Сабіна: — Брава-брава! Але як Вы ўсё разблытаеце? Бо ў гэтым рамане, што я чытаю, аўтар лёгка разблытвае сытуацыю. Вы спытаеце, як ён выплывае наверх? А вось як: мой аўтар уводзіць самагубства некаторых непатрэбных яму герояў раману і пасьля . . .

а. Раман: — Ой, не! я ня тое казаў. Я гаварыў пра далейшую лёгіку ў справе атамнай катастрофы . . .

Сабіна: — Ах, так? То выбачце мне, бо я думала, што Вы пытаеце, як аўтар раману выходзіць з сытуацыі. А вось як: ён проста ўводзіць самаг . . .

а. Раман: — Ну, гэта вельмі ўпрошчаны мастацкі прыём, каб здымаць у повесьці непатрэбных людзей. Але я ўсё-ж прашу Вас выслухаць маю разьвязку пра канец сьвету!

Сабіна: — А што там важнага ў канцы сьвету? — Кожны будзе мець свой канец сьвету: колькі на сьвеце людзей, гэтулькі і будзе ім «канцоў сьвету». А мне аднак ня хочацца паміраць, а як Вам, а. Раман?

а. Раман: — Ну, апрача асабістага канца — (нашае сьмерці) — ёсьць яшчэ агульны канец, пра які гаманіў Ісус Хрыстос, а Мацьвей, Марк і Лука дакладна апісалі.

— І вось Хрыстос сказаў: «У тыя дні, пасьля разрухі, сонца зьмеркне і месяц ня дасьць сьвятла свайго, і зоркі будуць падаць з неба, і сілы, што на нябёсах, паруханы будуць. І тады ўгледзяць Сына Чалавечага, ідучы на хмарах з вялікай сілаю і славаю». (Марк 13, 24 Э 26).

Сабіна: — Але, дзякуй Богу, што «днёў тых» яшчэ для нас няма! Плывуць толькі «дні» звычайныя!

а. Раман: — Так, але — на вялікае нашае гора — высокая навука і найвышэйшая палітыка намагаюцца «тыя дні» прысьпешыць: няхай толькі выпусьцяць з магазынаў атамную зброю, дык і разгорнуць і «парухаюць сілы небесныя» на зьнішчэньне нашага цудоўнага сьвету!

Сабіна: — Так-так, я ўсё вашае чытала і перадумала. І людзі кажуць, што ўжо няма ніякае сілы, каб паўстрымаць збраеньне і яно давядзе да «3-яе вайны й канца сьвету».

а. Раман: — А мне здаецца, што ёсьць на сьвеце такая «сіла».

Сабіна: — А дзе-ж яна? Хіба, што ў Бога?

а. Раман: — Так, і ў Бога і ў людзей.

Сабіна: — Як-жа гэта «ў людзей»?

а. Раман: — Найперш ратунак у Б о г а. Гэта напэўна меў на думцы Сам Гасподзь, калі гаварыў: «Пільнуйцеся, каб сэрцы вашыя не абцяжыліся абжорствам і п'янствам і жыцьцёвымі клапотамі, і каб дзень той не застаў вас неўспадзеўкі. Бо ён, як сетка, накрые ўсіх, што на абліччы зямлі жывуць. — Дык *зважайце* ўсякі час і *маліцеся,* каб заслужыць *на ўхіленьне* ад вас усяго, што станецца». (Лука 21, 34-36).

— Дык і вы ня сьпіце, бо ня ведаеце, у якую гадзіну Госпад ваш прыйдзе . . . будзьце гатовы». (Мацьв. 24, 41 — 44).

Адзіная рада астаецца і нам, якую даў Хрыстос вучням перад сваёй сьмерцяй: «Чувайце і маліцеся, каб ня ўпасьці ў спакусу» (Мацьв. 26, 41).

І апосталы пабуджаюць народ да малітвы: «Калі ў каго з вас не хапае мудрасьці, няхай просіць у Бога, які дае ўсім проста і без дакораў. — Але няхай просіць з вераю, ані ня сумляваючыся, бо той, хто сумляваецца, падобны да марское хвалі, якую вецер уздымае і разьбівае». (Якуб 1, 5-6).

«Просіце і не дастаіцё, бо просіце блага, каб ужыць на раскошы вашыя».

«Бог гордымі брыдзіцца, а пакорным ласку дае».

«Дык пакарыцеся Богу, супраціўляйцеся д'яблу і ўцячэ ад вас» (Якуб 4, 3-6-7).

«Цярпіце доўга і вы, умацуйце вашыя сэрцы, бо прыход Гасподні набліжаецца».

«Цяжка нехта з вас мучыцца? няхай моліцца. Весела каму? няхай псальмы сьпявае» (Як. 5, 8 — 13).

«Будзьце цьвярозымі, пільнымі, бо вораг ваш, д'ябал, як леў рыкаючы, кружыць, шукаючы, каго зжорці» (І Пётр 5, 8).

Сабіна: — О, так! я разумею: трэба ад пары да пары памаліцца, бо як-жа без малітвы жыць! Мы-ж не зьвяры і ні дрэвы маўклівыя! Які гэта паэт піша, што і «хвалі на моры моляцца і ўсе сілы прыроды ўздыхаюць да Бога»?

а. Раман: — Гэта праўда. Але ў цяперашніх трагічных часах трэба малітвы самай моцнай і трывалай як сталь, дый такой пакорнай, як была ў таго мытара ў сьвятыні. А нават, можна сказаць, такой заўзятай, як у тае жанчыны-паганкі, што здалёку гукала да Хрыста, каб ратаваў ейную дачку. Трэба

такой малітвы, як у тае другой жанчыны, што казала: «Каб я толькі дакранулася да ягонай адзежы, дык буду здарова!»

— А нам трэба малітвы «змабілізаванай».

Сабіна: — Як гэта зразумець? Можа лепш сказаць «арганізаванай»?

а. Раман: — Усё роўна! Адным словам, патрэба малітвы грамадзкай, супольнай, паўсюднай.

Сабіна: — Вашая вымога — нявыканальная, бо і апосталы ў аліўным садзе паспалі: крыху памоляцца дый зноў заснуць...

а. Раман: — Затое я і кажу, што трэба малітвы «мабілізаванай».

Сабіна: — Аніяк не разумею! Як Вы думаеце мабілізаваць малітвы ці набажэнствы?

а. Раман: — Тут трэба павучыцца ў ворага: бязбожнікі ўжо больш 50-ці гадоў мабілізуюць людзей і акцыю на згубу рэлігіі, веры, Царквы. Кладуць вялізарную працу і кошты, прэсу, кіно, радыё, тэлевізію і спэцыяльныя школы — усялякія сродкі супраць Бога. Мабілізуюць вучоных, прапагандыстаў, лектараў, усю сваю партыю і нішчасны народ, каб перамагчы Царкву і рэлігію.

— А што робім мы, веручыя? Можна сказаць, блізка нічога! Ну, крыху памолімся на заклік Папы і Ватыкану, а жывём па норме, «абы адчапіцца!» — Ведама, такая малітва астаецца бяз выніку — ані Богу, ані людзям...

Сабіна: — Але-ж пачакайце! як Вы змабілізуеце малітву? Бо Вы самі — чалавек стары і слабы дый Вы не маеце на сьвеце ніякага ўплыву, ані сяброў...

а. Раман: — Праўду кажаце. Аднак, калі разумнейшыя і лепшыя людзі нічога ня робяць, а маладзейшыя і вучоныя ў гэта ня вераць і калі справа вельмі важная і пільная дый дамагаецца нашага ўдзелу, — дык тады павінны за яе ўзяцца людзі слабыя, старыя і няздатныя.

— Ужо гісторыя ведае аб такіх здарэньнях, бо і так было ў Самога Ісуса Хрыста: калі вучоныя фарызэі і сьвятары не захацелі прызнаць Яго, дык Ён выбраў рыбакоў — нявучоных, простых і някультурных, і такіх няздатных, што паўцякалі ад Яго падчас крыжаваньня. Аж здавалася, што ўся місія Хрыстовая правалілася!

— А я-ж думаю, што палажэньне загрожанага сьвету вымагае зараз ратунку і Сам Бог увойдзе ў гэта. І ўсё-ж Бог вымагае, каб людзкія справы вялі людзі і тады ўжо Бог пачне памагаць слабым і нездатным работнікам — залежна ад нашае малітвы і надзеі.

Сабіна: — Добра-добра! Няхай і так, але ўсякая мабілізацыя вымагае сродкаў і людзей, а ў Вас — ні таго, ні другога...

а. Раман: — Зусім слушная заўвага — толькі-ж яна пастаўлена ў сьвецкім духу. А нашая справа — Божая справа, дык трэба мець адвагу пачынаць абсалютна без нічога! і насьледаваць Ісуса Хрыста. Бо і Сам Хрыстос арганізаваў Царкву, сказаць, «з парожнымі рукамі»: ня даў апосталам ні грошаў, ні аружжа, ні дамоў, ні грунту, хоць быў багацейшы ад усіх мільярдэраў усяго сьвету!

— Вы толькі паслухайце словаў Хрыстовых, што казаў на разьвітаньні з імі перад сваей сьмерцю: «Запраўды, запраўды кажу вам: пра што папросіце Айца ў Імя Маё, дасьць вам. — Да сяньня вы нічога не прасілі ў Імя Маё: прасіце і атрымаеце, каб вашая радасьць была поўная». (Ян 16, 23-24).

— Вось зарука і пэўнасьць у Божым міласэрдзі!

Сабіна: — Дзіўна блізка сходзіцца ваш асабісты лёс з героям майго француcкага аўтара, што — я казала — цяпер чытаю: гэты герой, усімі пакінуты, усё-ж не траціць энэргіі. Ажыўлены надзеяй на свой шчасьлівы лёс, ён не расчараваўся ў жыцьці і шукае новых дарог. Толькі-ж аўтар, спрыяючы свайму ўлюблёнаму герою, сьпіхае з ягонай дарогі нявыгодных праціўнікаў і самога героя пераносіць у адменныя абставіны, а нават у далёкі край.

— А якраз Вы астаецеся на сваім месцы і разам з сваімі няўдачамі мусіце тварыць нешта нязвычайна новае. Затое Вы скідаеце ўсю адказнасьць на Бога: праўда, што «вера пераносіць горы», але Бог ня творыць цудаў абы каму і на кожны заказ.

а. Раман: — Вы ўжо маглі пераканацца, што тут ня «кожны заказ», а справа такая гігантычная, што ня ўмяшчаецца ані ў якія рамкі: яе нельга раўнаваць да ніякіх іншых герояў, апрача Самога Ісуса Хрыста. Так, Сам Бог з людзьмі мусіць расстрыгаць такую блытаніну. І Хрыстос сказаў: «Дзе вас двое або трое зьбярэцца ў Маё Імя, там і Я буду сярод вас».

— Значыць, мабілізацыя людзей — першая справа: а сродкі пасьля неяк самі прыплывуць, калі Бог гэтае дапусьціць.

Сабіна: — Тады-ж укладайце праграму ці статут: трэба, каб людзі ведалі, да чаго іх заклікаеце, апэлюеце да ўсяго сьвету! — А з каго-ж Вы пачнеце сваё апостальства — з мужчын ці з жанчын? Бо, на жаль, Хрыстос клікаў на апосталаў толькі мужчын! Кажуць, што таму Хрыстос і прайграў сваю місію, бо вучні паўцякалі; але жанчыны і тады трымаліся Яго — аж да крыжа і да гробу — і ім першым Хрыстос паказаўся жывы!

а. Раман: — Былі розныя прычыны, чаму Хрыстос засноўваў Царкву на мужчынах — і псыхічныя і грамадзкія. Вам-жа ведама што ў тыя часы жанчыны ня мелі публічнага голасу і Хрыстос ня мог ламаць грамадзкіх адносінаў і звычаяў.

Сабіна: — Ну, затое мужчыны пасьля натварылі — з добрым апостальствам — масу адшчапенстваў і гэрэзіяў. А і цяпер: хто стварыў атэізм і бязбожнасьць, як ня мужчыны?

а. Раман: — Калі будзем так разьбіраць справу, дык і я скажу: хто першы пачаў на сьвеце грашыць, як не жанчына, Эва? І яна-ж спакусіла да граху свайго мужа, Адама . . .

Сабіна: — А затое жанчына, Марыя, першая пачала Новы Запавет у гісторыі збаўленьня, калі сказала: «Вось я — слуга Госпада: няхай мне станецца па твайму слову. І адыйшоў ад яе ангел». (Лука 1, 38).

а. Раман: — Добра! значыць, мужчыны і жанчыны сквітаваліся. І цяпер няма аніякай перашкоды, каб у нашай справе сталі галоўнымі дзеячамі абедзьве палавіны людзкога роду, паводле Божага прызнаньня.

Сабіна: — Вось гэта ясна: падумаем . . .

а. Раман: — . . . і памолімся!

Сабіна: — А Вы ўсё-ж не марудзьце ўкладваць праграму і статут, каб наглая справа не распаўзлася ў хмарах праектаў і гутарак!

*

А. Раман дастаў ад сп-ні Сабіны букет самых адборных, сьвежых кветак і ўсю дарогу парадаваў з імі перал спатыканай публікай. А дома паставіў іх перад абразом Божае Маці, аддаючы Ёй у апеку ўсю мабілізацыю малітвы і акцыі супраць «3-яе Вайны і Канца Сьвету».

Праўда, а. Раман, пішучы статут, так глыбока думаў, што часам аж задрамаў; а пасьля апраўдваў сябе, што пагода скланялася да вялікага дажджу і на дварэ парыла, як перад бурай. І зара, прамыўшы вочы, з новай энэргіяй зясядаў да старой машыны, каб адбіваць новыя радкі, укладаючы ўсю ўвагу і сэрца з надзеяй на Божую помач.

А тымчасам лета ўваходзіла ў поўную сілу і цяпло трывала бяззьменна ўжо добры тыдзень. Сонца грэла і сушыла, але яшчэ не паліла і ня прыпекала, а Лёндан купаўся ў сонцы — у поўным, багатым сонцы, што тут бывае вельмі рэдка, бо ў Англіі, як кажуць, восень трывае і зімой і вясною, а і значнымі кусочкамі лета.

## *„3-яя вайна . . .“ — дыскусія*

*Д. Аніська*

# 3-яй вайны не павінна быць . .!

Некаторыя людзі непатрэбна турбуюцца з прычыны 3-яй сусьветнай вайны, а разам з тым баяцца сканчэньня сьвету. А мне здаецца, што здаровы розум пераможа, бо мусяць урэшце палітыкі, правадыры народаў і дзяржаваў зразумець, што вайна — гэта поўная катастрофа.

Стараньні інтэлектуалістаў, пісьменнікаў і наагул усіх людзей, якія жадаюць супакою на сьвеце і маюць на гэта ўплывы, могуць і павінны да гэтага прычыніцца.

Усё хрысьціянства з сваімі сродкамі прыроднымі і надпрыроднымі, а таксама людзі добрае волі — усе, каму ляжыць на сэрцы дабро чалавецтва, могуць у гэтым многа што зрабіць.

Стараньні Апостальскага Пасаду, які з усім духавенствам усьцяж заклікае да згоды, мусяць нарэшце даць пажаданыя вынікі.

*

Так! Супакой людзям вельмі патрэбны, але супакой справядлівы, бо ня ёсьць справядлівым такі супакой, які нясе з сабою няволю для другіх.

Нядаўна памёршы ў Італіі ведамы стыгматык, празорца, Айцец Піо, з асобай каторага за яго жыцьця і па сьмерці дзеіліся нязвычайныя здарэньні, шмат чаго прадбачыў і адхіліў, што пагражала людзям, — дык вось ён адносна будучыні, як паведамляюць у прэсе, казаў: «Такой масакры чалавецтва, як дзьве апошнія сусьветны войны, ужо ня будзе. Настане паўсюдная згода і ўстанова на сьвеце новага ладу».

А зноў-жа журналіст Г. Норвід піша: «На нейкі час чалавецтва мусіць пакінуць войны пры помачы найнавейшых дасягненьняў тэхнікі, бо гэта пагражае яму непасрэднім і нямінучым зьнішчэньнем». І яшчэ піша так: «Не аружжа тэхнічнае, але капітал інтэлектуальны і характар народу — будзе праўдападобна галоўным аружжам у адносінах міжнародных у будучыні».

*

Вось-жа могуць быць і далей збройныя канфлікты, але такога масовага людабойства, як было, ужо быць не павінна!

Што праўда — толькі адзін Бог ведае, як там яно будзе. Тымбольш, што як-ні-як, а атомная небасьпека ўсё-ж існуе, дык трэба рабіць усё магчымае, каб небасьпеку 3-яе вайны адхіліць!

Але вайна — гэта толькі частка агульных няшчасьцяў на сьвеце і самая вайна ня ёсьць яшчэ адзінай балячкай на арганізьме чалавецтва — ёсьць яшчэ і другія. Як, напрыклад, вечныя збраеньні Усходу і Захаду, што павялічвае голад на сьвеце; шалёная рэкляма рознага злачынства ў прэсе, у кіно, радыё і асабліва ў тэлевізіі; забіваньне ненароджаных дзяцей у лоне матак; няскромныя моды, нарэшчце лібэральны атэізм у капіталізьме і прымусовы — ў камуне — гэта ўсё творыць супраціў Божаму праву і наклікае страшэнную кару за асабістыя і публічныя грахі.

А вось што гаворыць у прароцтве сьвяты Ян апостал (Адкрыцьцё раз. 16, 1 — 2): «I пачуў я голас вялікі з храму, мовячы да сямёх анёлаў: — Ідзеце й выліце чары гневу Божага на зямлю. I пайшоў першы і выліў чару сваю на зямлю: і зрабіліся благія й агідныя *раны ў людзей,* што мелі *кляймо зьвера»* —.

*

Што адносіцца да сканчэньня сьвету, то й так кожная хвіліна часу для многіх ужо ёсьць канцом сьвету, (асабліва гэта датычыць старых), але гэта канец толькі дачаснага сьвету, бо ёсьць жыцьцё загробнае.

Часам з прычыны такіх ці гэткіх здарэньняў мы трывожымся і ня тое, што толькі аб самых сябе, але і аб другіх, дарагіх нам, а таксама і аб цэлым сьвеце. Але-ж на гэтым сьвет не канчаецца. Бог Міласэрны і Справядлівы. Ён любіць і шкадуе людзей, як найбольш дасканалых сваіх твораў. А, любячы людзей больш, чым мы іх патрапім любіць, Бог за ўсе цярпеньні на гэтым сьвеце, — ці ў выніку якіх катаклізмаў, ці ад благіх бліжніх, ці з якой іншай прычыны незалежнай, — Бог тады за ўсе цярпеньні адплаціць у будучым жыцьці непамерным шчасьцем.

Хіба што хто самахоць ад Яго адвернецца — ня хоча прызнаць, ці злосна ня верыць. Але-ж Міласэрны Бог жадае збаўленьня і для такіх: пакуль чалавек жыве, ніколі ня позна вярнуцца да Яго.

А калі цяперашні сьвет і праміне, Усёмагутны Бог пакліча да існаваньня новы сьвет, як кажа Ян апостал у Адкрыцьці: «I ўбачыў я новае неба і новую зямлю, бо першае неба і першая зямля мінулі». (21, 1).

Вось-жа, так ці гэтак — значыцца — бядаваць аб сканчэньні сьвету і журыцца аб 3-яй вайне няма патрэбы. Урэшце, «што Бог дасьць, тое і будзе». Толькі ня трэба адны другім рабіць блага, але пашыраць дабро на сьвеце, тады зьнікнуць сваркі, калатня і войны. Каб ня быў чалавек чалавеку і народ другому народу ваўком!

*

Калі добра падумаць, дык усё тут тымчасовае: маемасьць, багацьце, зямля, дый усе тэорыі, сыстэмы, ідэалёгіі і ўсе канстэляцыі зорак, а нават і ўвесь сьвет . . . Усё гэта праміне.

Астаецца толькі Вечны і Магутны Бог, здольны тварыць іншыя формы быту. Астаецца таксама адказны перад Богам разумны чалавек.

Але, калі гэты чалавек, на сваю ўласную шкоду, не захоча верыць у Бога і не спаўняе Ягоных загадаў, з каторых такое важнае ёсьць любоў бліжняга, дык тады псуецца ўвесь Божы парадак на сьвеце.

I ня толькі, каб ня крыўдзіць іншых, але належыць тварыць ім дабро — памагаць у патрэбе. Таксама належыць шанаваць годнасьць людзкую, паважаць вольную волю і ненакідваць другому свайго пракананьня, бо хто стараецца жыць паводле Божага права — такі чалавек — можна сказаць — ёсьць асэкураваны на ўсякі выпадак, бо ягоныя ўчынкі пойдуць з ім у вечнасьць.

Часам чалавек ставіць пытаньне: «Чаму я павінен яму памагаць? Я не маю ніякага на гэта абавязку!»

Або зноў-жа бывае, што «Ні сам не гам, ні другому ня дам!»

О, не! так не павінна быць з намі, бо нават і для нашай уласнай карысьці любоў Бога і бліжняга «аплачваецца»: чалавек пачувае здаваленьне, што споўніў прыродны абавязак.

А на Божым Судзе Хрыстос скажа: «Я быў галодны, а вы накармілі Мяне, Я быў хворы, а вы адведалі Мяне . . . Што вы зрабілі аднаму з меншых братоў маіх, вы зрабілі Мне». (Мацьвей 25, 35-40).

*

АМЭРЫКА — ІЛЛІНОЙС:

Вы пішэце вельмі добра наагул. Ды добра і пра «канец сьвету». Вядома-ж, ягоны канец некалі надыйдзе, але калі? адзін Бог ведае.

Апосталы пыталіся Хрыста, але Ён ім не сказаў — толькі даў некалькі прыкметаў, як праяваў надыходзячага канца... Гэтыя-ж праявы і былі, і цяпер ёсьць, і будуць, хоць

канец яшчэ далёка-далёка ад нас! — Былі, ёсьць і будуць розныя сьветы, а канец аднаго — пачатак другога. — Быў сьвет паганскі (ён і цяпер усюды ёсьць), быў сьвет Старога Запавету ... (ён і цяпер ёсьць); настаў новы сьвет — сьвет Новага Запавету, Справядлівасьці, Супакою і Валадаром яго — Сам Хрыстос.

Хрысьціяне яшчэ ня выканалі сваей вялікай Місіі, а выканаць яе мусяць ... гэта плян Самога Хрыста ... «і будзе Адзін Пастыр і Адзінае Стада ... яшчэ на гэтай шматпакутнай зямельцы. — Таму і шмат вякоў яшчэ патрабуецца к'таму, каб мы выканалі гэтую місію з Хрыстом, у Хрысьце і дзеля Хрыста дый збаўленьня ўсяе людскасьці.

Я — хрысьціянскі аптыміст і ў хуткі прыход канца сьвету ня веру і не хачу верыць. Аднак я супраць усялякіх войнаў — належу да хрысьціянскіх пацыфістаў, — а гэта значыць і супраць усялякіх атомных бомбаў. Па мойму, Сьвяты Айцец Павал VI павінен борзда выдаць дэклярацыю супраць сучасных войнаў і тварэньня страшэнных сродкаў дзеля зьнішчэньня людзкога роду. Такжа сьвятары павінны адказацца ісьці ў ваенныя капэляны. Бо, калі-б яны паступалі тамака, як павінны паступаць хрысьціянскія прапаведнікі міру, любові, справядлівасьці, праведнасьці, — то жаўнеры адказаліся-б ваяваць — забіваць сваіх братоў, будзь яны чорныя, жоўтыя ці якія іншыя, бо яны ўсе —дзеці Адзінага Бога-Творца. І за ўсіх нас Хрыстос памёр на крыжы — Ён Бога-Чалавек і хоча, каб мы ўсе жылі і славілі Госпада Бога, а не забівалі адны другіх на страшэнных войнах ...

Пішыце далей, дарагі Айцец Рэдактар, выказвайце свае думкі!

Цісну руку
*а. Іоан-Хрызастом*

*

АМЭРЫКА-КЛЯРЭНДОН ЛЯ ЧЫКАГА — ПІШУЦЬ:

№ 2-гі «Божым Шляхам». Усё ў ім цікавае, асабліва лісты Журні, Падзявы, Хамёнка, Чабатара і ў канцы Савіцкага, — наконт вайны і «канца сьвету».

Па мойму Савіцкі дарэмна марнуе час і паперу. Лепш было-б толькі прыпомніць малітву: «Ад паветра, голаду, агня і вайны барані нас, Божа!». Бо чыж-ж ня той Самы Бог, які зрабіў патоп, збурыў Садому і Гамору, а выбухамі вулькану заліў Пампэю і другія гарады, а таксама наведаў землетрасеньнем многа месцаў, — ці-ж Бог ня ёсьць гаспадаром і атомных бомбаў? — Дык вось, як кажуць, — «Разумнаму чалавеку гэтага досыць!»

Аб нэграх у Амэрыцы «Божым Шляхам» пісаў: « ... а цяпер затое гэтая чорная раса мацнейшая ад белых фізычна ...»

Адкуль узята, што «мацнейшая»? — У Амэрыцы жыхароў больш чым 200 мільёнаў, а нэграў ня будзе 15 мільёнаў, а культуры і багацьця нельга і раўнаваць.

Нэгры жывуць цяпер толькі ў вялікіх гарадох, а белыя — ўсюды. Я напішу пісьмо кіраўніку нэграў, каб пастараўся вывезьці нэграў з гарадоў, дзе натуральна пануе дух нявольніцтва, як у старым Эгіпце, скуль Майсей вывеў жыдоў.

Няхай нэгры стараюцца быць гаспадарамі на фармах, адкуль уцякаюць белыя: няхай бяруцца за рамёслы ў малых гарадках і за гандаль; а нават няхай стануць малымі капіталістамі-буржуямі, ну і сьвятарамі, манахамі-манахінямі ... — Тады і Бог ім паможа.

*а. М. Урбановіч*

*

АМЭРЫКА—ІЛЛІНОЙС: (22 — VI — 1969)

Паважны і Дарагі Айцец Рэдактар:

Чытаю вашыя артыкулы пра вайну і канец сьвету. Добра, што гэта друкуеце, хоць справы сьвету так заблыталіся, што толькі Бог зможа іх разьвязаць.

Калі пішаце пра жаночы род, маю ўражаньне, што яго талеруеце і хваліце таму толькі, што ён патрэбны для захаваньня людзкога роду, але толку з яго быццам мала.

Вайна і справа канца сьвету — гэта важнае, але мала што ад нас залежнае, дый гэта нас мучыць і пагражае, а як іх вырашыць?!

І далей яшчэ: як жыць з дзецьмі, якія нас ня слухаюць і з бацькамі, якія цэлы час мяшаюцца ў жыцьцё дзяцей? Як жыць з суседзямі, якія сьмецяць ля нашае хаты і якія топчуць нашую траву, ломяць нашыя цудоўныя ружы?

І як прыступаць да Сьвятога Прычасьця, калі столькі злосьці і жалю да «Паважаных Нашых»? ... Як прабачыць ці прасіць прабачэньня?

Наш а. Янка таксама не гаворыць да нас пра сёньнешнія праблемы дый успамінае заўсёды, як было крыўдна, калі паны сядзелі ля аўтароў у касьцеле — аж з радасьцяй кажа: «Няма паноў!»

Я, сказаць праўду, ніколі не хацела сядзець на месцы паноў і прызнаюся, іх шкадавала, калі вывозілі ў Сібір і ў турмы. А ці хто з сялянаў быў-бы лепшы, каб нарадзіўся

багатым? (мо'й зусім не хадзіў-бы ў касьцёл?); зрэшта, там ёсьць новыя «паны», многа хітрэйшыя, дык цешыцца няма з чаго, а толькі хіба маліцца за адных і другіх, старых і новых?

Бога — то любіць ня цяжка, але бліжняга вельмі цяжка! А мне здаецца, каб яккольвечы навучыцца ня гневацца на дзяцей, на бацькоў і каб ужывацца з суседзямі — з каталікамі ці праваслаўнымі — і ў царкве і на зборках, з «крывічамі» і «зарубежнікамі», — з гэтымі тут і з тымі там, — з чужынцамі беднымі і багатымі — у аўтабусе, на вуліцы, — дык сапраўды сьвет зьмяніўся-б і войнаў ня было-б! Што-ж рабіць? Ніхто пра гэта не гаворыць, ня піша . . .

А пагода ў нас гадкая, халодная і дажджыстая — проста ангельская! І ваш часапіс беларусы чытаюць больш чым які іншы: ці згаджаюцца ці абураюцца — абы чыталі — гэта самае важнае!

*(Падпісала У. Х.*

*

ДА АТАМОВАЕ БОМБЫ І КАНЦА СЬВЕТУ

У Но. 2 (113) «Божым Шляхам» Сп. Я. Савіцкі, канчаючы свой артыкул «3-яя вайна — і — канец сьвету», зьвярнуўся да чытачоў, каб і яны ўзялі слова на гэтую тэму. Дык вось, будучы чытаром, хачу скарыстаць із гэтага пазваньня.

Ад нас, Вялікаліцьвіноў-Беларусаў ані не залежа — прычыне ці не атамовая бомба канец сьвету. Кажны ўчынак наш у гэтым кірунку — гэта страчаны час і праца.

Калі мы страшым сябе якім магчымым ліхам без магчымасьці з нашага боку супроцьдзеяць яму, дык мы толькі самым сабе шкодзім.

Камуністычная Масква страша сьвет атамовою бомбаю, бо яна хоча, каб сьвет яе баяўся і ей паддаваўся. Колькі год таму асабліва Хрушчоў страшыў атамоваю бомбаю. Не выглядала, каб на нашу эміграцу гэта дзеяла. Але калі, паехаўшы на зьезд да Чыкага, Адамовіч у сваей чытані пастрашыў ёю, дык ён напалохаў тую ж эміграцу. Значыцца, Адамовіч нясьведама спаўніў заданьне Хрушчова, ды ляпей за Хрушчова. Нашы ж нячысьленыя эміграчныя перыёдычныя выданьні пахвалілі за гэта Адамовіча і тым самым пашырылі шкоду ягоную. Назіраючы гэта, даводзіцца шкадаваць, што ў нашым часе не абавязуе права Массева, подле якога каралі ня толькі за сьведамы, але, хоць і меней, за нясьведамы выступ, за абмылу, неасьцярожнасьць.

Другое. У пару атамовае бомбы народы вольныя стаяць толькі перад аднэй небясьпечнасьцяй, ім пагражаючай — каб атамовая бомба ня ўчыніла канца сьвету. Але наш народ, на каторага Масква ўчыніла рассудак сьмерці, а нашы мілыя суседзі ёй у гэтым памагаюць, стаіць перад небясьпечнасьцяй загіны незалежна ад атамовае бомбы. Калі мы зьвернем усю сваю ўвагу, усе свае сілы на абарону ад сьмяротнага рассудку маскоўскага, тады напэўна абаронімся ад сьмерці; ня было такога народу, каторы бы гэтак не абараніўся. Калі ж мы бескарысна будзем траціць свае сілы на іншыя справы, дык тады станем перад небяспечнасьцяй быцьця народу нашага, небясьпечнасьцяй, не завіненай атамоваю бомбаю. А каліб так сталася, дык нашто нам той сьвет без народу нашага ў ім? Ці на тое, каб у ім жылі тыя, каторыя нас губяць?!

Дык ня боймася канца сьвету, і ня думайма праз гэта. Загіне сьвет — загінем і мы. Але думайма і ўсе рабіма, каб быў наш народ тады, калі канца сьвету ня будзе.

*Др. Я. Станкевіч*

---

*Біскуп Антоніо Фрагозо*

# „Я веру ў годнасьць беднага чалавека“

Браты мае! Я ёсьць слабы чалавек, як усе людзі. Слабы — я, але ў глыбіні сэрца маю надзею: надзея мая ў тым, што гэты народ выйдзе з уціску. Я прашу ў Бога ласкі, каб я мог памерці з гэтай надзеяй у сэрцы.

Мой бацька быў земляробам, як і вас шмат такіх. Я-ж яго бачыў, як ён працаваў ад усходу да захаду сонца. Ён ня меў чым плаціць за навуку сваіх дзяцей. Дабрадзеяў ня было, дык я мусіў аставацца дома. А мой бацька працаваў так, як найбольш працавітыя з паміж вас. Яго праца і праліты пот былі так годныя пашаны як і вашыя, але не давалі яму магчымасьці жыць па людзку. Чаму так? Таму, што мой бацька, будучы земляробам, быў нявольнікам. У Кратэус, у-ва ўсім штаце Чэара, тысячы земляробаў жывуць так, як ён; а я ведаю, што мільёны такіх ёсьць у Бразыліі. А гэтыя мільёны сялян — гэта мае браты, яны — дзеці таго самага

Айца; яны — абраз і падабенства Бога Стварыцеля; яны — браты Ісуса Хрыста; яны — дзеці Найсьвяцейшай Дзевы Марыі. — Я прызнаю іх годнасьць. І дзень, калі-б я перастаў змагацца дзеля іх, дзень, ў які я перастаў-бы змагацца за тое, каб яны былі людзьмі на сваіх нагах, — у такі дзень я здрадзіў-бы сваё сумленьне. І я здрадзіў-бы таксама сваю місію біскупа...

Ужо дзесяткі разоў я быў удзельнікам на кангрэсах біскупаў, нацыянальных і міжнародных. І я нямала чытаў аб тым, што пісалася аб цяперашняй Царкве. Я наглядаў, слухаў, чытаў, дыскутаваў і разважаў. У сумленьні я веру, што нашая праца ёсьць сапраўды працай Царквы. А бедныя людзі ёсьць першымі ў Божым Сэрцы. А той, хто мае месца ў Божым Сэрцы, ёсьць годны пашаны — гэта бедны чалавек.

Наймілейшыя браты! Я веру, што вы людзі адважныя. Але трэба сьцьвердзіць — чалавек не павінен адступаць. Чалавек не павінен баяцца турмы, ані аружжа. Чалавек ня ходзіць задам. Я спадзяюся, што вы будзеце людзьмі. Мае браты-земляробы, вы слухаеце мяне ў радыё, тут, у Кратэус або ў іншым месцы, сяньня, заўтра ці ў які небудзь дзень, — дык вы ведаеце, што хваля тэррарызму, якая надыходзіць, хоча заглушыць намаганьне, якое вы робіце, каб здабыць волю. Ня бойцеся, браты-сяляне. Ня бойцеся нічога і нікога! Бойцеся толькі ненавісьці. Сьцеражыцеся, каб ня было ненавісьці ў вашым сэрцы. Але іншага ня бойцеся нічога!...

Я ведаю, што вас ёсьць многа па маей старане, але я не патрабую, браты мае, вашай салідарнасьці: мне самому гэта непатрэбна. Такое адзінства патрэбна для таго, хто кіруе сындыкатам у Форталецца (Чэара), які перад трыма днямі быў арыштаваны толькі таму, што дамагаўся справядлівага павышэньня платы...

А хто выступае ў ягонай абароне? Якраз ім трэба памагаць. Гэта дыякан Гюі Тгімбольт і айцец Ваўтіер, якія прылучыліся да змаганьня за справядлівасьць і якіх затое выгналі з Бразыліі, якбы бунтаўшчыкоў.

І патрабуе помачы кіраўнік сындыкату ў Осаско, ля Сао Паулё, які быў арыштаваны і мучаны ў паліцыі: яго білі ў адно й другое вуха й яго аглушылі; яму смалілі папяросамі ў найбольш чулыя месцы цела, тасавалі электрычны ток і з ім абходзіліся як з сабакам; а ён — мой брат, Божае дзіця. — Дык вось хто дамагаецца вашае падтрымкі! Але мы, біскупы, гэтага не патрабуем. Тымчасам мы яшчэ моцныя, мы маем яшчэ падтрымку публічнай думкі (рэпутацыі). Але людзі слабыя, я хачу сказаць, кіраўнікі работнікаў, земляробаў, сындыкатаў, студэнтаў — усе тыя, якія несправядліва ўвязьнены, вось хто патрабуе вашай падтрымкі.

Мае прыяцелі, калі вы мне гаворыце: — Мы па вашай старане, Вы — наш Біскуп! — Гэта мне ня ёсьць шчасьцем. Але я буду шчасьлівы, калі вы абвесьціце: — Мы ўсе за адно, мы — на старане бедных людзей!

*

(Гэтая прамова адбылася ў сьнежні 1968 і ўзята з тэксту біскупа Антоняга Фрагозо, дыяцэзіі Кратэус, у паўночна-усходняй Бразыліі. Апублікавана ў Выдавецтве дэ Сэрф, пад тытулам «Эвангелле а рэвалюцыя»).

*Пераклад Я. Г.*

---

*Ціт Бадзяка*

# Праўда ці хлусьня?

*(Адказ бязбожніку А. Краснаму)*

Орган Саюзу пісьменнікаў БССР «Беларусь» памясьціў у № 4 (285) на бач. 17 артыкул «Праўда пра Хрыста». Падпісаць гэты артыкул не пасароміўся А. Краснов, «Кандыдат філасофскіх навук, дацэнт Мінскага пэдінстытута замежных моў». З гэтага шумнага тытулу можна меркаваць, што гэты «вучоны» сапраўды верыць у тую сваю хлусьню, якой ён зрабіў сумны падарак рэдакцыі «Беларусь». — Каб ён быў хоць крыху разумнейшы, дык павінен быў-бы падумаць перш... ну, хаця-б аб тым, што ня ўсе беларусы жывуць у БССР, дзе пра Хрыста маюць права пісаць толькі ваюючыя бязбожнікі, а што нямала беларусаў «бадзяецца» па шырокім Божым сьвеце. А, як ведама падарожжы вучаць, асабліва, калі хто з натуры ня дурны. Бо, як сказаў хтосьці: «Разумнаму падарожжа навакол хаты дасьць больш, чым дурному наўкол сьвету». Вось-жа ня трэба думаць, што толькі дурныя выехалі заграніцу, а разумныя асталіся дома, бо можа аказацца гэта крыху ня так. А тады, што падумаюць тыя эмігранты, прачытаўшы гэты, так кепска састрапаны «вінігрэт» з усялякага глупства?

Зусім згаджаюся з табой, тав. Красноў, што бяз «Хрыста, без яго павучэньняў й пропаведзей, без яго ўяўных цудаў» хрысьціянства «проста перастала-бы існаваць». Не разумею толькі, чаму ты посьле такой заявы называеш Хрыста «міфічным»? Бо «міфічны Хрыстос» мог-бы стварыць толькі «міфічнае» хрысьціянства, а не Царкву, якая як арганізацыя існуе вось ужо 19 з паловай стагодзьдзяў. Гэтага я табе, як філасофу, тлумачыць не патрабую, калі ты свае навуковыя тытулы здабыў сумленнай працай, а ня кепскімі артыкуламі супраць веры ў Бога. — Ня гневайся, але я хацеў-бы з табой пагукаць паважна!

Каб ужо скончыць з «міфічнасьцяй» Хрыста, скажы мне, калі ласка, як гэта сталася, што вось ужо скора будзе дзьве тысячы гадоў, як усе народы, нават СССР, лічаць новую эру ад Нараджэньня Хрыста? Каб гэта быў «міф», ці тады хто цікавіўся-б, напрыклад, такім пытаньнем, як на колькі пачатак нашай эры згодны з сапраўдным годам Нараджэньня Хрыста? А вось вучоныя ўсяго сьвету паставілі такое пытаньне і адказалі на яго, усталяючы дакладна памылку, якая была дапушчана ў пачатку нашага лічэньня часу.

Трэба сапраўды нічога ня ведаць аб Хрысьце, як гэта толькі вашыя «вучоныя» патрапяць, каб камуколечы магла прыйсьці ў галаву думка, што людзі калі колечы пачнуць лічыць час ад чаго яшчэ больш важнага, чым Нараджэньне Хрыста. Вось эра атому як ведама, пачалася зьнішчэньнем Нагасакі і Гірошымы, а эру касмічных палётаў пачала вашая сучка Лайка. Праўда, ты не скажаш, што гэта «міфы», аднак мусімо згадзіцца, што гэта зусім ня так цікава!

І яшчэ адно: Чаму ты пішаш аб тым, чаго ня ведаеш?

Бо я ня веру, каб ты толькі прытвараўся, што нічагусенькі аб Богу ня ведаеш. Я тады і гутаркі з табой не пачынаў-бы. Аднак-жа тое, што ты напісаў аб Хрысьце, паказвае, што ты не задаў сабе труду заглянуць у просты Хрысціянскі катахізм, а паўтараеш, як шпак, толькі тое, што табе сказалі твае настаўнікі, мусіць больш рахуючы на тваю прастадушнасьць, чым на твой навуковы крытыцызм, з каторым яны яўна ня лічыліся.

Ты пішаш: «Ісус Хрыстос — гэта Сын Бога і ў той-жа час сам Бог, які ўвасобіўся ў сваім Сыне».

Выбачай, што цытуючы цябе, я паправіў у слове «Бог» тваё «б» на «Б», бо гэта зьнявага Бога і ўсіх культурных людзей, большай і лепшай часткі чалавецтва, — зьнявага злосная, але беспадстаўная. — Калі Бога няма, дык чаму так Яго бязбожнікі ненавідзяць? А хрысьціянскія пісьменнікі і цяпер ужываюць назвы паганскіх міфічных багоў, як Уран, Нэптун, Сатурн, Марс і інш. Дык чаму вы так варожа адносіціся да Бога праўдзівага?

Калі ты, пішучы пра Ісуса Хрыста, думаеш, што гэтак сапраўды вераць хрысьціяне, дык ты вельмі мыляешся.

Хрысьціяне вераць у Бога адзінага і троічнага. Гэта значыць, у Бога не адзінокага, калі справа датычыць асобаў, але «калектыўнага». Толькі прырода Божая адна і нападзельная, бо дух не мае частак, як матэрыя і таму Яго нельга падзяліць.

У сьвеце духу няма і ня можа быць двух рэчаў зусім аднолькавых. Гэта табе, як філасофу, павінна быць добра ведама. Дык вось гэту адну непадзельную прыроду Божую маюць, не як мы, людзі, кожны асобна адзін ад другога, але супольна, аж тры Божыя Асобы. Кожная з іх ёсьць Богам, бо мае тую самую Божую прыроду і таму Бог ёсьць адзін, калі мы гаворым аб Яго прыродзе. А мы заўсёды, як вучыць філасофія, калі гаворым пра абыкаго ці пра абышто, маем на ўвазе яго прыроду: напрыклад, «Стэфка — жанчына, яна — чалавек», «сучка — Лайка, яна — сабака». Прытым слова «чалавек» мы ўжываем зусім у аднолькавым значэньні ці рэч будзе аб мужчыне, ці аб жанчыне і ці гэта будзе малады або стары, бо ўмовай, каб хто быў чалавекам ёсьць толькі тое, каб меў тую самую прыроду, што і ўсе людзі.

Дзеля таго, што наша чалавечая прырода зьвязана з матар'яльным целам і то так цесна, што нельга паказаць, дзе канчаецца цела, а дзе пачынаецца душа, мы маемо кожны нашую чалавечую прыроду поўнасьцю аддзельна ад другіх людзей, бо ў сьвеце матар'яльным можа існаваць цэлая сэрыя рэчаў зусім аднолькавых, напр., маркі, грошы. Аднак і тут чалавек становіць вынятак. Бо кожны з нас — апрача матэр'яльнага цела — мае яшчэ душу, каторая належыць ужо да сьвету духаў, дык нашыя душы ня толькі ня ёсьць аднолькавыя, але — можна сказаць — і ня могуць быць аднолькавыя! Ніхто ніколі ня чуў, каб хоць два чалавекі былі зусім аднолькавы. Якраз наадварот трэба сказаць, што розьніца між дваімі нават вельмі падобнымі людзьмі ёсьць без параўнаньня большая, чым між дваімі нават сабакамі, ні гаворачы ўжо пра двух вераб'ёў ці ластавак. І гэта ёсьць адзін з наймацнейшых доказаў духовасьці нашае душы.

Чалавечыя асобы розьняцца адна ад другой прыкладова так, як верабей розьніцца ад ластаўкі, сініцы ад галуба. Гэтая розьніца не датычыць усяе душы, бо наш розум, калі ідзе аб якасьць, ёсьць зусім аднальковы ў-ва ўсіх людзей, бо інакш мы не зразумелі-б

адзін другога. Тое самае трэба сказаць і аб нашай волі і аб спачуваньні. Тут колькасьць — на злосьць матэр'ялістам — зусім не зьмяняе якасьці! І таму чалавечая прырода ў кожным з нас астаецца аднолькавай.

Тут нам вельмі памог Новы Запавет — Эвангельле, з якога мы даведаліся, што Другая Асоба Сьвятой Тройцы — Сын Божы, не пакідаючы сваей Божай прыроды, што нават і для Бога было-б немагчыма, прыняў чалавечую прыроду — *«учалавечыўся»*, а не *уасобіўся*, як гэта памылкова, хоць і вельмі па беларуску прыгожа, сказаў тав. Красноў.

Што гэта азначае? — Гэта азначае, што Божы Сын заняў мейсца ў Ісусе Хрысьце «асобы», гэта значыць, той галоўнай, чыста духовай часткі нашае душы, якая ёсьць духам і адначасна «гаспадаром» усей чалавечай прыроды. Гэты выпадак зусім ня перашкодзіў Богу-Сыну стаць праўдзівым чалавекам, які меў ня толькі чалавечае цела, але і душу, бо каб Бог заняў у чалавеку-Ісусе месца душы, дык гэта ўжо ня быў-бы чалавек, бо тады яго розум і воля і пачуцьці былі-б не чалавечыя, а Божыя. А тымчасам чалавек, якога звалі «Ісус-Хрыстос», меў усё што патрэба, каб быць сапраўдным чалавекам: прыйшоў Ён да людзей, каб быць іх павадыром і вывесьці іх з таго праклятага завулка, у які яны ўвайсьці-ўвайшлі, але ўжо выхаду, як сьляпыя, не маглі, ці не хацелі ўбачыць.

Такім чынам Хрыстос меў дзьве прыроды — Божую і людзкую — меў адно людзкое цела, (бо Бог цела не мае), меў два розумы — Божы і чалавечы і дзьве такія-ж волі. І гэта ўсё ў Ім не зьмяшалася і не паблуталася, бо завялікая была між гэтым розьніца. Божая прырода ёсьць вечная, нязьменная, канечная, значыць, ня можа ня існаваць. Людзкая-ж прырода — створаная, дык усьцяж мяняецца з прычыны матар'яльнага цела і ня ёсьць канечная, значыць, магла-б зусім ня існаваць.

Аднак вось чаго ня меў Хрыстос — гэта чалавечай «асобы», па грэцку «іпостасі», таму ўся чалавечая прырода Хрыста была ўласнасьцяй Бога-Сына: Яго людзкое цела было целам Бога, Яго людзкая душа — душой чалавечай Бога. І вось ўсё, што Ён рабіў ці што з Ім рабілі другія, адносілася да Асобы Бога-Сына, Які дзякуючы сваей людзкой прыродзе, мог радзіцца, працаваць, цярпець, памерці і ўваскрэснуць. — усё гэта рабіў сапраўдны Бог. Таму і Ягоная Матка была Маткай Бога, бо з яе радзіўся, як слабое дзіцятка, Прадвечны Бог.

Вось так выглядае хрысьціянская навука і «Праўда пра Хрыста». А мне здаецца, што цяпер і сьляпы можа ўбачыць, якую «праўду» пра Хрыста А. Красноў ахвяраваў чытачам «Беларусі». Гэтаксама выглядае і ўся далейшая ягоная «праўда», якой мы займёмся пазней яшчэ дакладна.

*(Далей будзе)*

---

*Б. Птыцкі*

# МАЯ ВЁСКА

Вёска Луні была звычайная беларуская вёска, так прынамсі мне здаецца. Ах, як часта я да яе вяртаюся ў думках, хоць пакінуў яе нямала гадоў таму! Знаю напамяць яе, сваю родную, у якой нарадзіўся і якая была для мяне малой Беларусяй у Браслаўшчыне.

Хто праходзіў гасьцінцам з Краслаўкі ў Браслаўе, той пасярод вёскі бачыў маестатычны высокі крыж з фігурай Хрыста, у прыгожым гародчыку, у каторым рос вялізны куст бэзу, пасаджаны няведамай рукой, які — што вясна — цудоўна расьцвітаў. Праходзячы міма, пабожныя мужчыны здымалі шапкі, а жанчыны хрысьціліся.

А вёска нашая — вялікая, між рэчкай Друйкай а возерам Волас, крутла-даўгаватым як яечка і на дзіва глыбокім. Зямлі ў вёсьцы было досьць, якой хочучы — ураджайнай і не, — белай, чорнай і гліністай. Хаты старасьвецкія, абгароджаныя платамі, з прыгожымі садамі й гародамі.

Могільнік быў на берагу Друйкі, дзе зьбіралася ўся вёска, калі камусьці захацелася паміраць. А пры такой добрай нагодзе кожны наведваў і сваяка, каб памаліцца і часам паплакаць па ім. А пасьля могілкі пусьцелі і сумавалі; толькі вецер гуляў вясёлы, калышучы галузіны на дрэвах і кветачкі на магілках. Ды толькі зімой тон ягонай песьні станавіўся сумны і жудасны.

І вось уплыло ледзь-што ня трыццаць гадоў, як мяне змабілізавалі бараніць Польшчу ад ворага. Тады-ж разагналі і жыхароў нашае вёскі. Але яны зноў зьбіраліся, мімашто зьмяняліся валадары — аж, як пішуць знаёмыя: «З гасьцінца паўстаў тракт, а вёска Луні злучылася з мястэчкам Слабодкай!»

*

Бор за возерам Волас шуміць, а рэчка Друйка круціцца й сьпяшаецца ў мястэчка Друю, дзе ўпадае ў бурлівую Дзьвіну. А на гасьцінцы далёка яшчэ да ўсходу сонца шнур сялянскіх вазоў; а ў паветры запах мурожнага сена зьмяшаны з каланіцай намазаных калёсаў . . .

Бо — то якраз выпаў у Браслаўі кірмаш: гаспадары вязуць усё, што магчыма прадаць — жывёлу, збожжа або лён — залежна ад пары году. Прадаўшы трэ закупіць тое-сёе для гаспадара або для гаспадыні; а ці-ж ня трэба перакусіць селядца з доўгім хвастом? — Ну, ведама, што трэба! . . .

А пасьля такой перакускі не гаспадар кіраваў канём, а конь гаспадаром — аж да самай хаты.

*

У Лунях нядзельныя вечары былі надта шумныя: да абеду, хто быў жывы, сьпяшаўся да касьцёла ў Слабодку: ішла сума-імша; праўда, усё па лаціне, а ў сваю пару ксёндз гаварыў казань, ведама, па польску. А, прыйшоўшы да хаты, мама пыталася ў мяне: «Сынок, што гэта ксёндз гаманіў, бо так нешта моцна, што аж стукаў у амбонію?!»

«Ах, мамачка, лепш ня пытайся! І добра, што не зразумела, бо мо' больш і ў касьцёл не пайшла-б . . .»

Але-ж у касьцёл хадзіць трэба, бо гэта-ж касьцёл наш — новы, вялікі, прыгожы. — Нашыя бацькі яго будавалі на Божую хвалу, а што ксёндз не беларускі, дык гэта нічога — Бог адзін для ўсяго сьвету. Праўда, Бог любіць, калі чалавек гамоніць да Яго ў сваей мове, як дзіця да маткі. І тут я ўспомніў той мілы вершык з кніжачкі «Голас Душы» ксяндза К. Стэповіча:

*«Божа, што калісь народы*
*На асобкі падзяліў*
*І хацеў, каб народ кожны*
*Мовай роднай гаварыў».*

*«Узглянь-жа на народ бяздольны,*
*Беларускі, што к'Табе*
*Голас ціхі, паднявольны,*
*У пакорнай шле мальбе!»*

*

Прыходзе вечар. Дзяўчаты дражняць хлапцоў:

*«Ой, пайду я лугам, лугам,*
*Дзе мой мілы арэ плугам:*
*Ён арэ поле канямі,*
*А я плачу ўсё сьлязамі».*

А хлапцы, каб ня быць даўжнікамі, адказваюць:

*Мая мілая хароша,*
*Як пры печцы пакаток:*
*Павалілася ў канаву —*
*Ці у дол, ці ў папярок?»*

І так пад начным небам, быццам шклянным экранам, упрыгожаным яснымі зоркамі, гучаць — аж звоняць, маладыя галасы: тут сьмех і радасьць, тут смутак і трывога, ато прапановы і абяцанкі . . .

Луні мелі аркестру сваю, дык весяліліся гучна, а часам аж залішне!

У Лунях і моладзь і старшыя гаманілі заўсёды па свойму — сваей роднай — з браслаўскім акцэнтам; гутарылі аб працы і заработках, аб надзеях і няўдачах. А нашыя людзі былі ціхія, паслушныя і лёгка даваліся абдурыць гарадзкому ці іншаму турысту.

Час плыў вольна — аж запавольна, часам і непамысна, бо ня ўсе мелі працу. Многія маладыя выяжджалі на сэзонную работу ў Латвію. А затое зімой Луні ажыўляліся: жаніліся, выходзілі замуж, а прытым і так гулялі ўвесь Мясаед да Вялікага посту; а старыя гаманілі: «Няхай маладыя вышумяцца!»

Часам Лунямі страсяне нейкае нязвычайнае здарэньне — мо' прыедзе нейкі дзядзька з багатай Амэрыкі, ці хто народзіцца, або выпадкова заб'ецца, або звычайна памрэ, як казалі: «Памёр на сьмерць!», бо й бывала, хоць рэдка-рэдка, што памрэ на гарэлку ці на іншае ліха . . .

Затое бывалі і памысныя здарэньні, як загаманілі, што будуць паглыбляць Друйку — аж будзе на пару год работы!

І, праўда! Наехалі інжынеры, тэхнікі, будаўнічыя — пайшла работа трудная: б'юць слупы і робяць шлюзы, затрымалі бег рэчкі. Было шмат клопату, каб выпрастаць крывуліны ракі, дык усюды пускалі багор-машыну (землечарпалку).

Усе гэтыя заняткі былі вельмі памысным зьявішчам для Луняў. Калі-ж паглыбілі рэчку, дык вазёры так зьнізіліся, што агаліліся берагі амаль да кілямэтра. Тады паўстала новая праца: на асушаных берагох пачалі рабіць вялізныя ставы на гадоўлю рыбы.

*

Як-жа мне міла ўспамінаецца нашая вёска Луні! Знаў я ў ёй кожны куток, кожны куст, і хаты і людзей. І мы ўсе былі закаханы ў сваей вёсцы, хоць зямлі ня было да збытку, але хапала таму, хто шчыра працаваў. І я наймаўся ў багацейшых ці ўрыўка-

мі ці на ўсё лета, а зімою гуляў і быў у сваей вёсцы вольнаю птушкай.

Ці-ж Бог не стварыў чалавека свабодным? ці-ж ня выпусьціў з сваіх рук на вольную волю? І ў Лунях — багацейшы і бяднейшы, больш чы менш вучаны — ўсе карысталі з



Божай свабоды і ніхто не важыўся яе ў нас забіраць.

Луні здаўна славіліся ткацтвам, сеялі многа лёну. бо ён добра ўдаваўся і на тых грунтах, дзе іншая збажына не ўдавалася.

Лён цьвіў рана, калі сонца яшчэ было нявысока — аж гультаяватыя паны пыталіся, калі цьвіце лён? А мы ім адказвалі: «Тады, калі вы яшчэ спалі». А гэта-ж было відовішча цудоўнае: усё поле выглядала, быццам чыстае неба лягло на зямлю!

Ну, і працы пры лянку было нямала: сеялі, рвалі, у восецях сушылі, мялі, трапалі. Адны зара і прадавалі! — Затое другія самі ткалі палотны, ручнікі або нават і дываны. Старадаўная машына — «кросны», ніякіх матораў ня мелі, апрача ўласных рук і ног самой ткачыхі. Так лён, пакуль дайшоў да кросен, вымагаў ня мала заходу і працы, а праца была ўтомная і трэ было аддаваць ёй доўгія гадзіны дня, вечара і ночы.

Сапраўды, беларускія дзяўчаткі і жанчыны адзначаліся неймавернай уседлівасьцяй, нявычарпальнай цярплівасьцяй і дзівоснай здольнасьцяй! Ад познай восені і праз зіму дзяўчаты сходзіліся чародна па хатах з сваімі калаўротамі прасьці кудзелю і тады такая хата ператваралася ў фабрыку ручнога прадзіва, дзе калаўроты бурчэлі да познай ночы. Не без таго, каб хлапцы не дайшлі з гармонікам ці цымбаламі: тады калаўроты адстаўляліся ў сені, а ў сьвятліцы пачыналася гучная забава.

Мая цётка была спэцыялісткай ад красён: сама яна не прала — гэтым займаліся іншыя; а цётка мела аж залішне сваей і чужой работы — больш ганаровай — ткацтва. Каб прысьпяшыць прадукцыю, цётка ўцягвала мяне, але толькі на «чорную работу»: мусіў насучыць цэвак у чаўнок гэтулькі, каб хапіла да наступнага вечара. Добра! я згаджаюся, але патрабую адплаты, іначай раблю забастоўку, кажучы, што маю сваю школьную работу — задачы: тады цётка ідзе на ўступкі і нашая дружба трывае далей.

Цётка ткала дываны на заказ: яна знала нямала розных дэсанёў. а як ткала ў кветкі, дык яны былі проста жывыя!

Мая матка купляла ў слабодзкага крамара Мулькі баваўніцы на аснову патрэбнага колеру і гэта ператыкалася суконнай пражай, якую пралі дзяўчаткі ў Лунях. Пражу фарбавала сама цётка на патрэбны ёй коляр, якога ніякая вада ня змывала.

Каб выткаць розныя кветкі і разнастайныя дэсані, было патрэба да красён многа нітак да асновы — ад 4-ох да 12-ці, гэтулькі сама панажоў, па каторых ногі цёткі хадзілі, як у арганістага ў аргане на пэдалах. На вялікае дзіва, цётка ніколі ня мылялася, а рукі былі занятыя з чаўнаком і бядром, каб прыстукнуць кожную нітачку!

Аднойчы матка купіла вельмі танна чорнай бавальніцы для цёткі на аснову дыванoў. Ведама, цётка надта ўцешылася, бо і танна і прыгожа. Але-ж трэ' было тыя дыванчыкі добра прамыць: налілі вадзічкі і пачалі таўчы калатушкай — аж і зрабілася каша! бо тая бавальніца была папяровая...

Цётка напала на матку: «У якога ты жыдка купіла гэтыя ніткі?» «Бог-жа яго ведае! На кірмашы ў Браслаўі...» Як людзі кажуць: «Танны прысмак усялякі — ядуць толькі сабакі».

У Лунях хаты будаваліся прасторныя — сені і адна сьвятліца: уваходзіш з сяней у хату і тут-ж з правага боку маеш вялізную печ — цагляную. Гэтая печ спаўняла розныя абавязкі: у ёй варылася еміна, пякліся блі-

ны і зрэдку пякліся вялізныя боханы хлеба — па 5-6 штук. Але найбольш памятна мне печ тым, што на ёй спалі і грэліся, як паны на пляжы — з той толькі розьніцай, што на пляжах грэліся ў летнія гарачыя дні, а на беларускай печы пляжаваліся круглы год. І гэтая мілая печка трымала цяпло цэлыя суткі, і на яе хаваліся дзеці, калі пагражала розга і на ёй адаграваліся ўсе азябшыя і нярэдка лячыліся хворыя. І свае Луні я помню, як-быццам учора адтуль, хоць мінула гэтулькі гадоў! І колькі я пасьля пераехаў, дзе бываў, бачыў, працаваў і цярпеў, — то нідзе ані такой вёскі, ані людзей не спатыкаў такіх добрых, ціхіх, працавітых, Богалюбных . . .

І цяпер штодня бачу ў думках сваю «малую Беларусь — Луні»! І там школу, хаты, рэчку, возера, сенажаці з кветкамі і жыта з васількамі, пушысты сьнег зімою, а нават і асеньняе бездарожжа!

Якія-ж цудоўныя летнія ночы і віхрастыя зімы! . . . А сонца! . . . О, якое бывала ў нас паветра — чыстае, празрыстае — аж распірае грудзі! І як я цешуся, калі прысьніцца мне мая «малая Беларусь».

І як мала нашыя людзі ў Лунях думалі аб грашах: бывала, больш думалі, як памагчы другому. І вось дзіўна, што тыя самыя людзі, выехаўшы з бацькаўшчыны, ужо думаюць начай: шукаюць і мяркуюць, каторы жыд і ў якім банку дае большы працант? Недзе ў падарожах згубілі самае найважнейшае Божае прыказаньне: «Любі бліжняга, як самога сябе!» Чаму так сталася? — А таму, што тая Божая запаведзь — нявыгодная . . . Ці-ж не праўду я кажу? Га? . . .

*1 — V — 1969. Нью-Ёрк*

## З царкоўнага жыцьця

РЫМ-ВАТЫКАН: Праблема земляробства ў Італіі.

У самую пару веснавых работ (16-IV) Сьвяты Айцец прыняў у Ватыканскай базыліцы больш 10-ці тысяч хлебаробаў. Між імі было 300 старшын (сындыкаў) з горных акругоў Італіі.

У прамове Папа парушыў справу крызысу земляробства; сяляне апынуліся ў няпэўнасьці заўтрашняга дня. Яны змушаны пакідаць вёску і горныя раёны, каб шукаць у гарадох працы больш прыбытковай. Вытварылася палажэньне проста алярмовае, нават у гарах, дзе людзі вельмі прывязаны да зямлі.

Прыпомніўшы, што гэтай справай займаўся Папа Ян XXIII і II-гі Ватыканскі Сабор, Павал VI-ы зьвярнуў увагу на характар і канечнасьць іхняе прафэсіі, бо яна корміць увесь край.

«Ваша прафэсія — казаў Папа — ёсьць глыбока чалавечай, высокароднай і дастойнай, бо яна пазваляе вам жыць блізка з Божым дзелам стварэньня. Яна накладае на вас абавязак такое працы і такога жыцьця, якія дзіўна пераплятаюцца з жыцьцём усяе прыроды. Гэта вымагае ад вас асаблівай маральнасьці і духовасьці, глыбокага пачуцьця сям'і, якая лучыцца ў супольнай працы і ля супольнага стала і гнязда, глыбокага адчуваньня жывой веры, якая давала-б вашаму жыцьцю і працы ясную сьведамасьць, што вы выпаўняеце Божую волю. — Урэшце вы адчуваеце салідарнасьць з другімі людзьмі ў заўсёднай помачы адны другім . . .»

Пад канец прамовы Папа заклікаў італьянскіх земляробаў да еднасьці і надзеі на сваю працу. Прыпомніў такжа абавязак сьведчыць аб сваім хрысьціянстве.

«Захавайце — казаў — маральныя вартасьці, якімі адзначаецца вёска ў каталіцкім краю, — тыя вартасьці, якія з такою любоўю і жарлівасьцяй захоўвалі і перадавалі вам вашыя бацькі, а ёсьць імі сумленнасьць, стрыманасьць, справядлівасьць і асабліва вера ў Бога, Які так па айцоўску апякуецца намі, вера ў Збавіцеля, Які працаваў сваімі рукамі і Які на вашай высокароднай прафэсіі абасноўваў свае прыповесьці, каб павучаць нас вечных праўдаў Божага Валадарства. Захавайце веру ў Царкву, якая як маці цэніць і хваліць вашу незаменную працу . . .»

*

ВАТЫКАН — ГАЛЯНДЫЯ: «Новы Катахізм». — Гэтая «катахізмоўка» выклікала вялікае зацікаўленьне, але немалое зьдзіўленьне і сумнівы ў каталіцкім сьвеце; таму Папа вызначыў асобную Камісію, каб пераглядзіла і ацаніла тэкст катахізму з паручэньнем выдаць новы, папраўлены. Аж вось здарыўся сумны факт, што ў гэтым часе — без дазволу галяндзкіх біскупаў — некаторыя адзінкі пасьпяшылі перакласьці і надрукаваць пераклады катахізму на ангельскую, францускую і нямецкую мову — усё ў непапраўленым тэксьце ! . . .

Найбольш спорнымі зьяўляюцца пункты, якія адносяцца да Бога-Стварыцеля, анёлаў і чалавечых душаў. Пасьля наяясна сказана аб першародным граху, аб дзявочым пачацьці Хрыста, аб адкупленьні роду людзкога праз Збавіцеля, аб сьвятой Літургіі і Эўхарыстыі, аб асьвячэньні хлеба і віна ў сьвятой Літургіі, аб непамыльнасьнасьці Царквы . . .

Калі ідзе мова аб сьвятарстве і яго абавязках, аб праве навучаць і кіраваць, дык Камісія дамагаецца, каб «Новы Катахізм» прызнаў выразна, што ў Царкве навучаць і кіраваць мае права толькі Папа і біскупы ў лучнасьці з ім, а не «Народ Божы», бо гэта ясна выплывае з той місіі, якую даў Хрыстос апосталам: «Ідзеце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх ... навучаючы іх выпаўняць усё, што Я сказаў вам і вось Я з вамі ў-ва ўсе дні да сканчэньня веку. Аман» (Мацьвей 28, 19-20). — А цяпер Папа, як Наступнік апостала Пятра, і біскупы, як наступнікі апосталаў, маюць права і абавязак гэтае паручэньне Ісуса Хрыста выконваць.

Аднак-жа наагул галяндзкі Катахізм прызнаны ў большай часты пахвальным і добрым падручнікам для вернікаў: вечнае Эвангельле Новага Запавету прадстаўлена ў ім даступна і адпаведна для сучаснага грамадзтва. Добрыя якасьці катахізму патрабуюць, каб абавязкава паправіць усе няяснасьці, недакладнасьці і бракі, якія выказала Камісія.

*

ВАТЫКАН. Да гэтага часу на сьвеце налічаюць да 700 мільёнаў няпісьменных, што ня ўмеюць ні чытаць, ні пісаць: асабліва яны згушчаны на вялікіх кантынэнтах, як Паўдз. Амэрыка, Афрыка і Азія. Нядаўна Папа заснаваў пры Ватыкане спэцыяльную Камісію, якая супрацуе з адпаведнай інстытуцыяй Аб'еднаных Нацыяў. Дый якраз гэтыя народы вызначаюцца вялікай нястачай матар'яльнай: іх неабходна падняць эканамічна; але і прасьвета ім патрэбна, каб выйсьці з недастатку і каб працаваць больш разумна і паступова.

*

НЕПАДЗЕЛЬНАСЬЦЬ ВЕРЫ: На Зялёныя Сьвяткі Папа прамаўляў да народу сабранага на плошчы сьв. Пятра, перад базылікай. Сказаў, што ў Хрыстовай Царкве ёсьць разнаякасьць моваў, абрадаў, звычаяў, бо яна ёсьць для усіх народаў і ўсе людзі маюць права і жаданьне славіць Бога паводля сваей псыхікі — у роднай мове і ў родным нацыянальным абрадзе. Але адначасна Папа адзначыў, што ў Царкве мусіць быць захавана адзінства веры, якую заснаваў Сам Хрыстос. Царква заўсёды бараніла цэласьці веры перад людзкой самаволяй ці пыхай або амбіцыяй, бо Хрыстос сказаў апосталам: «Хто вас слухае, Мяне слухае», «Ідзіце, навучайце ўсе народы ... навучаючы іх выпаўняць усё, што Я сказаў вам» (Мацьв. 28, 20).

*

РЭФОРМА ЦАКОЎНАГА КАЛЯНДАРА: 11 мая 1969 Папа спэцыяльным дакумантам аб'явіў новы царкоўны Каляндар. Царква жадае падкэрсьліць Тайну Адкупленьня людзкога роду, а таму нядзеля называецца «днём Гасподнім» і назначаецца для выслаўленьня Ісуса Хрыста і спэцыяльна першае месца назначаецца для галоўных Хрыстовых сьвяткоў, як Каляды з Адвэнтам, Вялікдзень з Вялікім Пастом і Зялёныя Сьвяткі з 10-дзённым прыгатаваньнем. Такім чынам Царква праз пакуту, малітву і разважаньне Хрыстовых Тайнаў прыгатаўляе вернікаў да вечнага сьвята ў небе.

У выніку зьмены календара многа сьвятых не ўвайшло ў новы парадак: адны зусім выкрэсьлены з каляндара — гэта тыя, аб якіх няма пэўных даных гістарычных і крытычных (40). Праўда, з між гэтых сьвятых былі некаторыя вельмі праслаўленыя і ўлюблёныя, як Крыштоф, Аляксей, Зузанна, Філямэна, Тэкля, Барбара і інш.

Да II-ой групы належаць сьвятыя, якім Царква дазваляе аставацца ў каляндарох лякальных, дзе яны цешацца спэцыяльнай пашанай, як сьв. Мікалай, сьв. Юры і інш.

Дый гэта ўжо ня першы раз, што Царква рэдукуе сьвятых, што калісьці прайшлі ў каляндар агульны з лякальных ці традыцыйных і мала крытычных. Так Трыдэнтскі Сабор (1545—1563) з 220 сьвятых пакінуў у каляндары 130, а цяпер з 250 асталося ў агульным каляндары 150 і ў лякальных 60.

Прычыны рэформы: Царква жадае, каб у каляндары былі сьвятыя з розных народаў (напр. цяпер увайшлі нэгры, японцы — мучанікі), з розных краёў і эпохаў — выдатныя сваімі цнотамі, навукаю і дзейнасьцяй. Так астаецца сьв. Моніка, патронка матак, сьв. Тамаш Мор, муж стану, сьв. Вінцэнты а Паўлё, патрон міласэрдзя, сьв. Ян Боско, вялікі выхаваўца. Так каляндар атрымаў большую душпастырскую вартасьць.

*

## ЭКУМЭНІЧНЫЯ ВЕСТКІ

АНГЛІЯ: Робяцца захады, каб уладжыць супольныя абрады хросту для дзяцей мяшаных сужэнстваў, асабліва для каталікоў і англіканцаў. І адна і другая старана хоча мець у гэтым брадзе нешта спэцыяльнае з свайго веравызнаньня, каб адны і другія маглі адчуць і ўдзельнічаць актыўна ў сьвятым таінстве Хросту.

Экумэнічная Камісія апрацавала спосаб сустрэчаў каталікоў, праваслаўных, англіканцаў і інш.: мела-б гэта адбывацца спосабам даўнейшых хрысьціянскіх *«агапаў»*, прыяцельскіх пачастункаў, на якіх апрача еміны чыталі-б Сьв. Пісьмо і маліліся-б пра адзінства Царквы. Гэта быў-бы нагодны ўспамін Хрыстовае Вячэры, толькі бяз супольнага прычасьця.

Мэтай такіх брацкіх сустрэч будзе ўзаемнае пазнаньне і зьбліжэньне хрысьціянаў.

Супольная Камісія для каталікоў, англіканцаў і мэтадыстаў, якія ўжываюць ангельскую

мову ў літургіі, усталіла аднолькавы тэкст галоўных літургічных малітваў, як Глёрыя, Апостальскі і Ніцэйскі Склад Праўдаў Веры, Санктус і Патэр Ностэр (Ойча Наш). Гэта паможа брацъ удзел у супольных набажэнствах.

*

ГРЭЦЫЯ: ВЯЛІКДЗЕНЬ — найбольшае Сьвята Хрысьціянства ня мае свайго сталага дня і кожны год зьмяняецца, а прытым праваслаўныя маюць нязгодны ключ да вылічэньня даты з каталікамі і пратэстантамі, а да гэтага яшчэ даходзіць розьніца ў каляндарох грэгорыянскім і юліянскім, якога яшчэ трымаецца праваслаўная Царква, хоць ён позьніцца на 13 дзён.

Каталіцкая Царква згаджаецца авансам на ўсякую форму каляндара, які будзе прыняты ў міжнародным жыцьці, бо ня прывязвае да ніякай даты дагматычнага значэньня. Да расейскай рэвалюцыі ў 1917 каталікі ў Расеі сьвяткавалі паводле старога стылю (юліянскага — «праваслаўнага») і Ватыкан на гэта згаджаўся. І цяпер частка каталікоў — «уніятаў» сьвяткуе паводле старога стылю.

У апошнім часе Патрыярх Атэнагорас I падаў праект на праваслаўным зьезьдзе ў Грэцыі сьвяткаваць Пасху ў II-ую нядзелю красавіка. З гэтым зьвярнуліся да Рымскага Папы і да Сусьв. Рады Цэркваў у Жэневе. Адразу каталікі і пратэстанты высказваюць сваю згоду. Але як паставяцца ўсе праваслаўныя і стараверы, сказаць цяжка...

*

РЫМ: 17 — V — 1969 памёр у Рыме (80 г.) чэскі кардынал Ян Бэран, які *ў Чэхіі* шмат працярпеў ад гітлероўцаў — вязьнены і прасьледаваны, а ад 1949 да 1965 быў вельмі мучаны праз свой чэскі камуністычны ўрад, які яго трымаў у арышце, перавозіў яго з аднаго месца ў другое. Кардынал Бэран быў чалавек просты і ціхі, але моцнай волі і адвагі: сьмела выступаў супраць ворагаў рэлігіі, бароначы вернікаў і Царкву, дабіваючыся свабоды сумленьня. Нарэшце ў 1965 быў выгнаны з краю; тады асеў у Рыме, дзе прабыў да сьмерці. На фота бачым, як Папа, наведаўшы ўміраючага, дае яму пацалунак супакою.



*

ЯПОНІЯ: У чэрвені адбылася там сустрэча хрысьціян з атэістамі, зарганізаваная праз Ватыканскі Сакратарыят для няверучых. Атэісты былі пераважна з Азіі; сустрэча была карыснай, бо дала аказію пазнаць бліжэй атэістаў з Далёкага Ўсходу і пачаць дыялёг.

Катал. Царква ў Японіі звярнула асаблівую ўвагу на прыгатаваньне катэхумэнаў да сьв. Хросту, а таксама на здабываньне новых катэхістаў. Што год у Японіі прыступае да Хросту каля 7.000 дарослых. Каталіцкія біскупы вельмі зважаюць на матывы новых кандадатаў, каб не ўваходзілі ў Царкву людзі дзеля якіх небудзь плянаў матар'яльных. — Сьв. Літургія пераложана на японскую мову і ў набажэнстве прыняты новыя формы культу, напр., замест каленкаў дапускаецца глыбокі паклон.

*

АФРЫКА. Папа ад 31 ліпня да 2-га жніўня праводзіць у гор. Кампаля, (рэсп. Уганда) каб адправіць набажэнства перад новым аўтаром афрыканскіх мучанікаў. Тамжа адбудзецца зьезд афрыканскіх місіянэрскіх біскупаў і паважныя нарады, якія будуць мець вялікі ўплыў на далейшую працу на чорным кантынэнце, бо Афрыка ў апошнім часе дае вялікія надзеі для сьв. Царквы.

*

БРАЗЫЛІЯ: Паправа сацыяльнага жыцьця ў гэтай вялізнай краіне, як і ў іншых рэспубліках Лацінскае Амэрыкі, сустракае неперарможныя цяжкасьці. Урад, апанаваны багачамі, ніякім чынам ня можа здабыцца на неабходныя рэформы, каб дапусьціць народ да поўных грамадзкіх правоў. Сьвятары, а нават і біскупы, якія дамагаюцца паправы законаў і жыцьця, зара падпадаюць пад націск ураду і цяжкі перасьлед: іх аб'яўляюць «камуністамі»...

27 — V 1969 ў гор. Рэсіфэ быў знойдзены сьвятар Пэрэйра Нэто, павешаны на дрэве. Ён быў ведамы супрацоўнік арцыбіскупа Камары і выхаваўца моладзі. І ён вельмі не спадабаўся сваей дзейнасьцю высокім урадоўцам і на яго быў зарганізаваны тэрор: перасьцерагалі, страшылі, а пасьля павесілі! Цяпер урад стараецца затушаваць справу і «ня можа» знайсьці вінаватых у злачынстве. І сам арцыбіскуп і ўсе абаронцы работнікаў і беднаты атрымліваюць пагрозы тэррору: наклейваюцца афішы на касьцельных і біскупскіх дамох з такімі пагрозамі.

(Чытайце прамову біскупа Фрагозо!).

*

ВАТЫКАН. НОВЫ АБРАД ХРОСТУ: Адпаведна да жаданьня Сабору апрацаваны новы парадак хросту: ясней выражана роля і абавязак хросных бацькоў у адносінах да дзіцяці. Папярэдні абрад больш тасаваўся да людзей дарослых, якіх даўней хрысьцілі: яны адракаліся ад злога духа і выражалі сваю веру ў Бога. Цяпер-жа Царква навучае і праверае хросных бацькоў, каб яны добра прывыкаваліся да выхаваньня дзіцяці па хрысьціянску. Яны павінны памагаць родным бацькам выхоўваць дзіця, а ў разе патрэбы і заступіць іх.

*

АДКАЗ ПАПЫ на некаторыя прапановы: Сапраўды, Царква перажывае цяпер вялікі крызыс веры: з усіх бакоў зьвяртаюцца да Папы, каб рабіў уступкі ў сваіх вымогах, каб даваў дазвол на ўсё, што толькі хто папросіць: а іншыя дамагаюцца, каб мацней караў вінаватых і не рабіў аніякіх уступак.

Дык вось 29 — VI — 1969 Павал VI-ы — ў 6-ую гадавіну сваей каранацыі — даваў генэральны адказ на ўсе звароты: сьцьвярдзіў упадак маральнасьці сьвету і заклікаў да малітвы за грэшны наш сьвет. Казаў, што праяўляецца назойлівая прага скасаваць цяжкое Божае права і аблягчыць жыцьцё. Грэшны сьвет дамагаецца ад Царквы і ад Папы, каб стварыць «новае хрысьціянства» бяз цярпеньняў, бяз гераізму і крыжа, значыць, з поўнай самаволяй і без абавязкаў.

Аднак Папа адказваецца здаволіць такія дзікія вымогі, бо ён не мае права ламаць Божыя законы, каб здаволіць капрысных людзей, бо праўды Божыя існуюць і яны нязьменныя. І апостал Павал, на якога паклікаецца Папа, піша у сваім пасланьні да Галятаў (1, 8-9): «Калі-б нават мы, або анел з неба пачаў дабравесьціць па-над тое, што вы прынялі, няхай будзе анатэма!» — «Як раней мы сказалі і цяпер іноў кажу: хто дабравесьціць вам па-над тое, што вы прынялі, няхай будзе анатэма!»

Павал VI-ы тасуе гэтыя суворыя словы да цяперашняга сьвету разам з апосталам Паўлам, што сварыўся на Галятаў: — «Бо ці-ж я людзей шукаю, ці Бога? Ці людзям дагаджаць стараюся?» «Бо калі-б я яшчэ людзям дагаджаў, дык ня быў-бы слугою Хрыстовым» (1, 10). «О, бязглуздыя Галяты! Хто вас ачараваў, каб не пакараліся праўдзе? . . . Баюся за вас, ці не надарма я працаваў у вас?» (3, 1-11).

І закончыў Павал сваё пасланьне да Галятаў: «Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста з духам вашым, браты. Аман. — Пісана да Галятаў з Рыму» (6, 18).

## З беларускага жыцьця

### З ЖЫЦЬЦЯ ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛА

У суботу 21-га чэрвеня вучні школы сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане ладзілі традыцыйны купальскі вечар. Як заўсёды, былі смачна прыгатаваныя самімі вучнямі стравы, вогнішча, скокі праз агонь, сьпевы і гульні. Шкода толькі, што паблізу школьнага саду няма ракі . . .

Школьны год канчаецца 18-га ліпеня. Частка вучняў едзе адразу ў Дальвэртон ў Заходняй Англіі, дзе яны правядуць тры тыдні сваіх канікулаў у маёнтку сп. Обэрона Гэрбэрта, старшыні Ангельска-Беларускага Таварыства.

### КАНФЭРЭНЦЫЯ ТАВАРЫСТВА СЬВ. ЯНА ЗАЛАТАВУСНАГА

У суботу 21-га і нядзелю 22-га чэрвеня адбылася ў Лёндане канфэрэнцыя на тэму «Праваслаўная Царква і экумэнізм» ладжаная ангельскім Таварыствам сьв. Яна Залатавуснага. Сярод дакладчыкаў былі прафэсар з Гітроп Коледж а. Дж. Марры (каталік), выкладчык Оксфардзкага унівэрсытэту а. архім. К. Ўэйр (праваслаўны) і рэдактар часапісу «Фронт'р» Сэр Джон Лёрэнс (англіканец). На заканчэньне канфэрэнцыі ў нядзелю 22-га чэрвня а. Аляксандар Надсон адслужыў для ўдзельнікаў сьв. Літургію. Сьпяваў хор Школы сьв. Кірыла.

### АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

У суботу 28-га чэрвеня адбыўся у Лёндане 23-ці Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Кіраваў зьездам сп. Янка Каўбаса з Брадфарду. Сярод пытаньняў разгледжаных зьездам была справа куплі новага дому ў Брадфардзе, дзейнасьць беларускага клюбу ў Манчастар і справа дапамогі беларускім выдавецтвам ў ангельскай і беларускай мовах.

Галоўная Управа была перавыбраная ў старым складзе, г. зн.: сп. Павал Навара — старшыня, а. архім. Леў Гарошка — заступнік старшыні, сп. Янка Міхалюк — сакратар, сп. Павал Асіповіч скарбнік.

## З лістоў у рэдакцыю

РЫМ. 14 — IV — 1969.

*Дарагі а. Рэдактар!*

Дзякую Богу, што прышлося мне адведаць сталіцу хрысьціянства, мейсца сьвятых і мучанікаў! Бачыў магутную сьвятыню сьв. Пятра: трудна апісаць яе, бо самая архітэктура — гэта нешта нязвычайнае. А вось багацьце артыстычных твораў найбольшых мастакоў, як «Піета» Міхала Анёла з белага мармуру, Божа-ж мой, колькі там думкі ў таго чалавека і яго душы! А ў другіх мясцох сьвятыні-мазаікі і абраз Рафаэля, «Хрыстос у славе Ператварэньня» — цудоўныя колеры і кампазыцыя — проста немагчыма сказаць, што гэта адтварыў чалавек: сапраўды, мусіла быць у яго Божая іскра! Бо ці-ж мог-бы гэта стварыць чалавек сам?

Пасьля я наведаў Сыкстынскую капліцу. Фрэскаў Міхала-Анёла апісываць ня трэба, бо яны добра ведмыя з рэпрадукцыі. Толькі выскажу сваю спасьцярогу: дзіва, колькі трэба было мець веды ў рысунку, пэрспэктыве, гармоніі, формы, а перадусім анатоміі цела. Мастакам найцяжэй маляваць рукі і ногі, а тут тэга зроблена цудоўна! Ці-ж сяньня хто так зможа і ці захоча?

І яшчэ бачыў я Колізэум: магутны цырк і арэну — месца мучанікаў і сьвятых. І я падумаў, колькі там згінула нявольнікаў, што будавалі гэтыя манумэнты! Так што кожны камень або цагліна — гэта гісторыя працы розных народаў; а былі тут і пагане і хрысьціяне — адна была іхняя доля.

А на арэне гінулі тыя, што змагаліся за праўду: яны не баяліся гаварыць у вочы праўды тым валадаром, якія лічылі сябе багамі. А вось сяньня асталіся толькі руіны іхніх палацаў, а хрысьціянства існуе.

Катакомбы. Мы ў сьвятога Калікста пад зямлёю на 25 м., а даўжыня іх — 16 кілям.: магу бачыць толькі частку — немагчыма абыйсьці. Пачуваю, што нейкая моц адрывае ад штодзённага жыцьця. Вось грабніцы, аўтары, саркафагі. Думка: якая гэта марнасьць — гэты наш сьвет і ўсё на ім! Асабліва зьвярнуў увагу на скульптуру сьвятой Цэцыліі, патронкі сьпевакоў і музыкантаў. Бачым у пячурках лямпачкі, якімі асьвячалі сабе дарогу, а побач вялікія збаны на ваду, віно і аліву. Захавалася яшчэ нямнога фрэскаў, малюнак Хрыста і другі — рыбы і хлеб. Гэта розныя сымбалі і знакі першых хрысьціянаў.

Катакомбы пазнаў з розных эпохаў: апрача хрысьціянскіх ёсьць паганскія і жыдоўскія. Кажуць, што катакомбы дасягаюць да ста васьмідзесяці кілямэтраў! Бог толькі ведае...

Словам, за гэты кароткі час я адведаў многа дзівоснасьцяў: замак Анёла, музэі і многа памятнікаў старадаўнасьці, дый цікавых экспанатаў.

Але ад старой гісторыі пяройдзем да самай новенькай! Спаткаў нашага дарагога Уладыку Чэслава, а такжа і айцоў Татарыновіча, Маскаліка дый айца Тамаша Падзяву, з якім не бачыліся блізка 30 гадоў! А Бог дазволіў спаткацца ў Рыме. Колькі радасных і ветлівых слоў, а толькі вялікі жаль, што не маглі досыць нагаварыцца — не хапіла часу.

Цяпер пахвалюся, што меў выстаўку сваіх абразоў у Вялікім Палацы Французскіх Артыстаў. А на выстаўцы ў прыгарадзе Парыжа я атрымаў бронзавы мэдаль за абраз «Дрэва памірае»: гэты малюнак купілі ў мяне адразу.

І шыкуюся да конкурсу Міжнародных мастакоў, у якім прыймаюць удзел розныя нацыі, а будзе там і Беларусь! Дзякаваць Богу, трымаюся і змагаюся ў галіне малярства.

Гэтым канчаю свой ліст.

З глыбокай пашанай
*Віктар Жаўняровіч*

---

## ДУМКІ З КНІГІ „СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ“

***(Разьдзел XXII: Думкі над людзкой мізэрнасьцяй)***

1) Няшчасным будзеш, дзе-б ты ня быў і куды-б ты ня скіраваўся, калі не навернешся да Бога.

Чаго-ж ты бядуеш, што ня ўсё ідзе табе так, як ты хацеў-бы ды думаў-бы? Ці-ж ёсьць хто такі, каму ўсё было-б паводле яго волі?

Ані мне, ані табе, ані каму іншаму з людзей на зямлі.

Ніхто ня ёсьць бяз турботаў ды клапотаў на гэтым сьвеце, хаця-б ён быў каралём ці папам.

Каму-ж тутака найлепш? Таму, бязумоўна, хто шмат здолее цярпець для Бога.

2) Кажуць слабыя і недалужныя людзі: — Гляньце, як добра жыве гэны чалавек! Які ён багаты, які вялікі, які магутны ды слаўны!

Але глянь на скарбы нябесныя і ўбачыш, што ўсё гэта дачаснае, адна марнасьць, усё яно надта

няпэўнае, а на'т можа быць нам цяжарам, бо ніколі не валодаем ім бяз клопату і страху.

Шчасьце чалавека ня ў тым, каб мець шмат усялякае дачаснае маемасьці — хопіць яму, калі мае ўмеру.

Сапраўдная нядоля — жыцьцё на зямлі.

Чым больш хацеў-бы жыць чалавек духовым жыцьцём, тым гарчэйшым робіцца яму дачаснае жыцьцё, бо тым лепш ён чуе ды ясьней бачыць марнасьць людзкай благоты.

Есьці, піць, быць чуйным, спаць, адпачываць, працаваць ды падпарадкавацца іншым патрэбам натуры — сапраўды вялікая марнасьць ды цяжар пабожнаму чалавеку, які так ахвотна хацеў-бы быць вольным ад путаў цела і ўсякага грэху.

3) Надта-ж цяжка пабожнаму чалавеку з усімі гэнымі патрэбамі цела ў дачасным сьвеце!

Таму гэтак горача моліцца прарок, калі хоча быць вольным ад іх, кажучы: — О, Госпадзе! Вызваль мяне ад патрэбаў маіх! (Пс. 24).

Бяда тым, што не бачаць сваей марнасьці! А яшчэ большая бяда тым, што любяць гэтае мізэрнае і марнае жыцьцё.

Бо некаторыя так любяць гэтае жыцьцё, што хоць ледзь зарабляюць на яго працай, ці жабруючы, аднак-жа, калі-б тут заўсёды маглі жыць, аб валадарстве нябесным зусім ня дбалі-б.

4) О, шалёныя ды няверныя сэрцы, каторыя так загразьлі ў зямным, што нічога ня хочуць ведаць апроч таго, што датычыць цела!

Але гэтыя няшчасныя пад канец жыцьця цяжка адчуюць, якую бязглуздасьць ды марнату яны любілі.

# ДУМКІ З ЧЫТАНЫХ КНІЖАК

Прывычка гаварыць сам з сабой у некаторых ёсьць адзнака блізкай ці сапраўднай старасьці.

У некаторых — вынік вымушанай доўгай адзіноты.

У некаторых — вынік доўгага быцьця сярод чужых людзей, або патрэба астацца верным сабе на ўсё жыцьцё.

(К. Чорны. Т. У. бач. 222)

...фармавалася жаночая душа, у якой многа месца для чужой бяды.

Лягчэй памерці, чым астацца навек без надзеі і веры.

Як сьвет стаіць, то яшчэ ня было вядома, каб на нянавісьці вырасла шчасьце, а радасьць на чужой бядзе.

*(К. Чорны. Т. У.)*

*

Дасканаласьць чалавека мерыцца дасканаласьцяй ягонай волі.

Хто сапраўды хоча Бога, той ёсьць дасканалы.

*(Д-р Ал. Жыхлінскі)*

Дантэ адказаў аднаму хулігану, які паказаў яму хвігу: «Я аднэй сваёй ня дам табе за сто тваіх!»

*

Лепшы ўжо бязбожнік, чым такі, што служыць Богу і чорту разам.

Хто непадобны да ўсіх, той адзін супраць усіх, бо сьвет створаны для чэрні...

*(Маккіявэльлі)*

*

Людзі мучаць тое, што іх жывіць: хлеб!

Памяць аб багатых гіне разам з імі. Памяць аб мудрых ня згіне ніколі.

*(Пэруджыно да жонкі)*

Розьніца між чалавекам і вярблюдом: вярблюд можа тыдзень працаваць ня пьючы, а чалавек можа тыдзень піць, не працуючы.

Як пераскочыш, дык і тады не кажы «гоп!» — Перш паглядзі, куды ты ўскочыў!

## ПРАПАГАНДА

Першы Сакратар партыі Беларусі выклікаў лектара раёну Чырвоны Молат і кажа:

— На цябе ёсьць данос, што ты сам займаешся рэлігійнай прапагандай.

— Як? калі і дзе хто чуў ці бачыў?

І-ы Сакр.: — А чаму ў тваім раёне найбольш веручых? Як ты чытаеш там лекцыі?

Лектар: — Я-я-я нічога ня вінаваты!

І-ы Сакр.: — А чаму ты сам бываеш у царкве?

Лектар: — Бо я хацеў бачыць, ці хто з нашых таварышаў бывае ў царкве.

І-ы Сакр.: — Та-а-ак? А гэта што значыць? — (Тут І-ы Сакр. паказаў лектару фото, на якім гэты быў падлоўлены, што ў царкве перахрысьціўся).

Лектар: — Ах, гэта я толькі муху зганяў з носу...

І-ы Сакр.: — Ты мне глядзі, бо як дам гэтае фото пракурору, дык пагонішся за мухай на Камчатку ці на Чукотку! — Дык вось табе задача: за гэты год зьменшыць веручых на палавіну. Разумееш?

Лектар: — Але-ж як гэта зрабіць?

І-ы Сакр.: — Хоць у самога чорта пытайся, як зрабіць — не маё дзела! Але зроблена быць мусіць і амін!

Лектар: — (да сябе) — Мусіць павешуся, ці ўтаплюся?...

# А. ЦОЛЛІ (1881–1956)

15 — II — 1945 ў Рыме ахрысьціўся Ізраэль (Іцка) Цоллі, Старшы рабін, і стаў тэрцыярам Закону Сьв. Францішка (Раббіно-Саро ді Рома). Прафэсар гэбраікі і іншых біблійных навукаў.

Жыдоўская гміна ў Рыме лічыць больш як 2.000 гадоў. А. Цоллі быў сынам фабрыканта ў горадзе Броды. Расейскія ўлады перад І-ай вайной давялі фабрыку да банкроцтва, тады сям'я Цоллі перабралася ў гор. Станіславаў у Галіччыне. Цоллі вучыўся ў польскай школе, а пасьля ў рабінацкай. Ён калегаваў з хрысьціянскімі хлапцамі і часта заглядаўся на крыж. Ён надта задумаўся над словамі Эвангелля: «. . . каторы зносіць грахі сьвету . . .» І часта пытаў сам сябе: «Хто Ён ёсьць гэты Хрыстос?»

А посьле ў рабінацкай школе ў Львове ўсё часьцей думаў аб Хрысьце і купіў сабе Эвангельле. У думках дайшоў да выніку: «Хрыстос быў сынам майго народу, дык я магу Яго паважаць, як найбольшага вучыцеля, якога Бог узбудзіў паміж жыдамі. І гэтак, кажа, я ўжо быў як-бы ўкрытым хрысьціянінам на шмат гадоў перад маім хростам».

І вось гэтак ён павольна прыбліжаўся да Каталіцкае Царквы. «Бог так уладзіў, (казаў Цоллі), што я ня вёў з сабою ніякага змагання. Мне ня трэба было нічога пярэчыць, адракацца ці адкідаць штосьці. Ці-ж Бог Абрагама, Ізаака і Якуба ня ёсьць Бог Ісуса Хрыста і апосталаў?»

Характэрна, што ў Галіччыне было нямала жыдоў, якія цікавіліся Каталіцкаю Царквою ў-ва ўсходнім абрадзе. Мітрапаліт Шэптыцкі дэлегаваў аднаго сьвятара, які добра ведаў гэбрайскую мову і гаварыў навукі па гэбрайску ахрышчаным жыдам. Гэтыя прызнавалі, што ўсходні абрад ім дае больш зразуменьня хрысьціянства чым лацінскі.

---

*В. Адважны*

# БАЙКІ

## ГУСАК — БАЛБАТУН

*Гусак наш быў, ах, проста дзіва —*
*Такая птушка гаманліва!*
*З паветра ўлёт хапаў навінкі:*
*Злавіўшы вестку, ні хвілінкі*
*Ня мог трымаць сабе ў сакрэце,*
*Каб не разляпаць па ўсім сьвеце.*

*Гусак — мужчына. дык бывала,*
*Калі ўжо гусаку бракавала,*
*Сьпяшаўся качкам весткі несьці,*
*Пры тым любіў у іх пад'есьці.*

*А качкі шыбка далей — далей*
*Наўкол усім рапартавалі —*
*Аж плёткі так плылі з вадою*
*І ня было ад іх адбою!*

*Гусак у дружбе з сьвінскім стадам*
*З вялізным выступаў дакладам:*
*Усім і кожнаму тлумачыў,*
*Што думаў, чуў, гадаў ці бачыў.*

*А сьвіньні слухалі, глядзелі —*
*Аж друга гуртам ўзялі й зьелі!*

*

*Дзяяч, паміж людзей*
*Ня лезь да качак, да курэй,*
*Каб не нарвацца на сьвіней!*

## ЖАБЫ

*І-ая: — Кума, чаго так горла*
*Ты цэлу ночку дзёрла? —*
*2-ая (скромна): — Сьпявала я,*
*Так як магла —*
*Аж салаўя*
*Перамагла! —*
*3-яя (вясёла): — Гэй, музыка, раз-два —*
*Ква-ква, ква-ква! —*

*

*О, салавей! Між жабаў жывучы,*
*Ты лепш маўчы! —*

---

## ДРУКУЕЦЦА ГІСТОРЫЯ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСКАГА ПРОФ. ШЧАКАЦІХІНА

Паведамляюць нас, што кніга праф. Міколы Шчакаціхіна «Нарысы гісторыі беларускага мастацтва» друкуецца і ў бліжшым часе выйдзе. Да яе будзе дадана вялікае рэзюмэ паангельску. Выйдзе кніга ў двух выданьнях таго самага выдавецтва. У вадным із іх, апрача рэзюмэ, будуць дзьве мапы Вялікалітвы-Беларусі — этнографічная сучасная і палітычна-гісторычная.

# ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

Хрушчоў: — Гэта-ж птушаняты, таварыш Антанін. Калі ты трымаеш птушанё ў руцэ, што ты з ім зробіш?

Навотны: — Я зацісну яго, таварыш Нікіта, я зацісну...

Хрушчоў: — Мыляешся, таварыш: мёртвае птушанё — гэта скандал і Айчына патрабуе птушанят...

Навотны: — Я адчыню далонь. (Папраўляе зьбянтэжаны Навотны).

Хрушчоў: — Зусім не! Птушанё паляціць і гэта будзе яшчэ горш. Дык не! Ты трымай птушанё ў аднэй руцэ, нямоцна зацiснутае; а другой рукой скубі пярынку па пярынцы, пакуль птушанё ня стане зусім голым, тады можаш пусьціць птушанё. Яно замерзьне і само будзе лезьці табе ў руку...

(Рэд. Гэты анэкдот, вярнуўшыся з Прагі, пераказаў францускі журналіст. Узята з месячніка «Ля нувэль Плянэт» з травеня 1969. «Птушаняты» — гэта ёсьць грамадзяне, а Навотны пры Сталіне іх зацiскаў, а пры Хрушчове толькі скубаў да гала).

## НОВАЯ СПРОБА

Брэжнёў: — Што вы думаеце пра мой праект? Чэха-Славацыя нам не ўдалася, эканомія ў нас паскудная, а толькі атэізм манцее. Але-ж ён тут пад прымусам, дык яго ня любяць у-ва ўсім Саюзе. Каб на пробу даць поўную свабоду ўсякай рэлігіі, так як Ленін рабіў НЭП. Ня даць аніякай помачы ні рэлігіі, ні атэізму! Няхай самі спасаюцца, як хочуць...

Касыгін: — Што ты выдумаў? Ці можа сам ужо паверыў у Бога?

Падгорны: — Ты, Касыгін, падумай! Можа ён мае рацыю? Няхай папрабуюць з сабою дзерцiся — царкоўнікі і бязбожнікі... А мы — нічога!

Касыгін: — А ці ня збунтуюцца супраць нас адны і другія?

Падгорны: — Каб я жыў, ня збунтуюцца! Абодвы бакі будуць за нас, каб ня было ім горш ранейшага.

Брэжнёў: — Мая ідэя нас падтрымае, бо мы коцімся ў дол.

Усе задумаліся, выходзяць.

Брэжнёў: — Заўтра яшчэ аб гэтым пагамонім!...

*

На сцэну вылез ч о р т: падбегае да кожнага фото і тыцкае кожнаму таварышу пад нос вялізную хвігу дый кажа:

— Я хіба жыць ня буду, калі да гэтага дапушчу?! — (Тут чорт так па шатанску зарагатаў, што рэха праняслося па Крамлі!).

ЗЬМЕСТ



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.